Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4815) 17 красавіка 2015 г.

















## Пункцірам

✔ Музычны вечар, прымеркаваны да 250-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Клеафаса Агінскага, дыпламата, мецэната, палітыка, дзеяча культуры Беларусі, Літвы і Польшчы, адбыўся ў бібліятэцы Пасольства Беларусі ў Парыжы. Па ініцыятыве трох краін-суседак 250-годдзе М. К. Агінскага ўнесена ў Каляндар памятных дат ЮНЕСКА на 2015 год.

✔ У межах Дзён беларускай культуры ў Францыі і пад патранажам Пасольства Рэспублікі Беларусь у Парыжы прайшоў у мастацкі вернісаж «Лодкі ў колерах». Адным з галоўных арганізатараў мерапрыемства выступіла Ларыса Нуры-Шакінка, ураджэнка Беларусі, мастак і дызайнер, архітэктар і каларыст, аўтар кніг пра гісторыю, культуру і сімволіку колеру.

✔ Конкурс перакладу ваеннай паэзіі, прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі, стартаваў у Белдзяржуніверсітэце. Пераможцы будуць вызначаны ў трох намінацыях: «Лепшы пераклад на беларускую мову англамоўнай паэзіі», «Лепшы пераклад на рускую мову англамоўнай паэзіі» і «Лепшы пераклад на англійскую мову паэзіі на беларускай мове». Прадстаўляць можна толькі адзін аўтарскі пераклад у кожную намінацыю.

✔ Учора, падчас цырымоніі адкрыцця XI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў, адбылося ўрачыстае гашэнне паштовага блока, прысвечанага 525-годдзю з дня нараджэння Францыска Скарыны. Паштовая прадукцыя, прысвечаная беларускаму і ўсходнеславянскаму першадрукару, мае даўнюю традыцыю. Сімвалічна, што прэзентацыя новага праекта прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, якая з'яўляецца адзінай у краіне захавальніцай кніг Францыска Скарыны.

✔ Больш як 30 старадаўніх абразоў канца XIX — пачатку XX ст. можна ўбачыць на выстаўцы «Беларусь праваслаўная» ў Хоцімскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі. Усяго ў экспазіцыі прадстаўлены 32 іконы.

✔ Экспазіцыя паштовай прадукцыі «Летапіс Перамогі» адкрылася ў круглай зале мінскага паштамта. На выстаўцы прадстаўлены маркі ваеннай тэматыкі, выпушчаныя з 1992 года, мастацкія двайныя паштоўкі, карткі, а таксама архіўныя дакументы з гісторыка-інфармацыйнага цэнтра РУП «Белпошта».

✔ З 1 па 28 чэрвеня ў Маскве будзе працаваць Міжнародная тэатральная школа Саюза тэатральных дзеячаў Расійскай Федэрацыі. Творчы праект у дзявяты раз збярэ навучэнцаў — 85 маладых акцёраў з 20 краін свету. У спісе традыцыйна і прадстаўнікі Беларусі: Аляксей Сянчыла і Алена Сцяцэнка з Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага і Таццяна Еўтух з Гродзенскага абласнога тэатра лялек.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15015



Фота Кастуся Дробава

*Старшыня журы конкурсу мастак Леанід Гоманаў з кіраўніком Мінскага міжнароднага жаночага клуба і жонкай Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Індыі ў Рэспубліцы Беларусь Анамікай Бхарці ўручаюць дыплом III ступені самай малодшай удзельніцы Вікторыі Калівошка.*

# Шчасце жыць на сваёй зямлі!

**Выстаўка «На сваёй зямлі» ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» падвяла вынікі X Міжнароднага конкурсу жывапісу і графікі дзяцей і моладзі.**

Узрост таленавітых мастакоў ад 4 да 21 года. Паводле старшыні журы конкурсу мастака Леаніда Гоманава, пры адборы карцін улічваліся вобразнасць выражэння, арыгінальнасць, здольнасць раскрыць ідэю, выкарыстоўваючы шырокі арсенал мастацкіх сродкаў.

У экспазіцыю ўвайшлі 463 дзіцячыя творы на тэмы: «На сваёй зямлі», «Слова аб палку Ігаравым», «Апавяданні, казкі і байкі Л. М. Талстога», «Мая сям'я», «Во саду ли, в огороде», «Вандроўка», «Мы гуляем, мы танцуем, мы спяваем!», «Зімовыя матывы».

Падчас адкрыцця выстаўкі адбылася цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў I, II, III ступеняў. Так, кіраўнік Мінскага міжнароднага жаночага клуба і жонка Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Індыі ў Рэспубліцы Беларусь Анаміка Бхарці разам са старшынёй журы конкурсу Леанідам Гоманавым уручылі медалі, дыпломы і прызы Ангеліне Кабановіч (дыплом I ступені), Лізавеце Кананові (дыплом I ступені), Яну Лысаму (дыплом II ступені), Дар'і Усціненка (дыплом II ступені), Зосі Шаціла (дыплом III ступені), Вікторыі Калівошка (дыплом III ступені) і іншым.

Міжнародны конкурс жывапісу і графікі «На сваёй зямлі» праводзіцца ў Беларусі з 2006 года. Сёлета ўзялі ўдзел 13 257 юных мастакоў з 34 краін свету: Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Балгарыі, Грузіі, Індыі, Казахстана, Кітая, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Партугаліі, Расіі, Украіны, Чэхіі ды іншых.

Арганізатары мерапрыемства — Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, грамадская арганізацыя «Беларускі зялёны крыж».



*Вікторыя Калівошка «Я і мой хамячок Піп».*

Выстаўку можна наведаць да 25 красавіка.

**Таццяна ШЫМУК**

*Стасункі*

# Мінск — Алматы

**Каляндар кніжных кірмашоў на постсавецкай прасторы адкрываецца ў лютым традыцыйна ў Мінску, пасля працягваецца ў іншых краінах. Алматы — адзін з гарадоў, дзе збіраюцца кніжнікі з краін СНД і ўсяго свету.**

Чым уразіла, чым захапіла сёлетняя сустрэча выдаўцоў, паліграфістаў, пісьменнікаў у Казахстане? Беларуская дэлегацыя на кірмашы «Па Вялікім Шаўковым шляху» была досыць прадстаўнічай: работнікі Міністэрства інфармацыі, кіраўнікі выдавецтваў і друкарняў краіны. Увага наведвальнікаў уражвала — да беларускай кнігі цягнуцца, яе жадаюць набыць. Як мастацкую, так і пазнавальную, адукацыйную літаратуру. З кніг Выдавецкага дома «Звязда» карысталіся попытам зборнікі серыі «Сугучча сэрцаў» (дзе прадстаўлена на рускай мове літаратура краін СНД і пераклады твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў), альманахі «Сугучча», «Калекцыянер», кнігі Анатоля Бутэвіча, Уладзіміра Ліхадзедава і іншыя выданні гісторыка-асветніцкага характару.

Сярод знакавых падзей кірмашу было шмат мерапрыемстваў, якія праводзіліся за межамі экспазіцый, выставачнай пляцоўкі: сустрэчы ў выдавецтвах, друкарнях, канферэнцыі і «круглыя сталы» ва ўніверсітэтах і Нацыянальнай бібліятэцы. Па традыцыі дастаткова актыўна працавала дэлегацыя кніжнікаў і выдаўцоў, арганізатараў выдавецкай справы Расійскай Федэрацыі. Госці з Масквы асаблівую ўвагу акцэнтавалі на кнігах для дзяцей, а таксама на падручніках.

На «круглым стале», прысвечаным міжлітаратурным стасункам, які ў межах кніжнага кірмашу правеў Інстытут літаратуры і мастацтва імя Мухтара Аўэзава, размова ішла і пра беларуска-казахстанскія літаратурныя сувязі. З грунтоўным дакладам на гэтую тэму выступіў дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч. Іншыя выступоўцы — кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева, кандыдат філалагічных навук Айнур Машукава, доктар філалагічных навук Алімжан Талівалдзі-Хамраеў — таксама звярнуліся да тэмы беларуска-казахстанскіх адносін.

…Гасцямі беларускага стэнда кірмашу «Па Вялікім Шаўковым шляху» былі перакладчык Кайрат Бакбергенаў, галоўны рэдактар часопіса «Простор» Валерый Міхайлаў, паэт Любоў Шашкова, іншыя пісьменнікі, літаратуразнаўцы, якія цікавяцца беларускай літаратурай, друкуюцца ў Беларусі, маюць уяўленне пра сучасны літаратурны працэс у нашай краіне. Іх цікавілі кніжныя навінкі, расповеды, здабыткі беларускага прыгожага пісьменства.

**Сяргей ШЫЧКО**
**Алматы, Казахстан**

# Прынятыя ў СПБ



**Юрый Васільевіч ІВАНОЎ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 22 чэрвеня 1962 года ў пасёлку Рышканы Рышканскага раёна (Рэспубліка Малдова). Скончыў Кішынёўскі політэхнічны інстытут імя С. Лазо. Лаўрэат міжнароднага літаратурнага конкурсу «Сям'я — Адзінства — Айчына» (2014). Аўтар паэтычнага зборніка «О, Бела Русь, моя мечта!» (Кішынёў, 2013).



**Наталля Аляксандраўна ІГНАЦЕНКА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 11 верасня 1972 года ў г. Магілёве. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. Куляшова. Аўтар больш як дзясятка кніг, сярод якіх — «История про Варю и Дубовёнка», «Как два брата этикет изучали», «Как два брата спортсменами стали», «Сказка про Тимку и Кузьку», «Разговор под звёздным небом» ды інш. Жыве ў Маскве.

# Адзначылі пісьменніцкі актыў



Фота Таццяны Сівец

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджана ў Рэспубліцы Беларусь Ісфандзіяр Вагабзадэ.*

Традыцыйна па выніках творчай работы за год Саюз пісьменнікаў адзначае празаікаў, паэтаў, публіцыстаў, драматургаў. Узнагароды атрымалі і нашы калегі з Мінскай вобласці. Рашэннем кіраўніцтва творчага аб'яднання граматамі СПБ Уладзімір Цанунін, Вадзім Вазнясенскі, Дзмітрый Вінаградаў, Лёля Багдановіч, Алесь Камароўскі, Хведар Гурыновіч, Іван Ярашэвіч, Ісфандзіяр Вагабзадэ (Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджана ў Рэспубліцы Беларусь, літаратуразнаўца, ён таксама член Мінскага абласнога аддзялення СПБ).

У кожнага з узнагароджаных — пэўныя творчыя здзяйсненні ў мінулым годзе, на пачатку сёлетняга: новыя кнігі, заўважныя публікацыі ў перыёдыцы, перамогі ў творчых конкурсах. Іван Ярашэвіч са Смілавіч актыўна займаецца краязнаўчай, пошукавай працай. Хведар Гурыновіч з Салігорска часта выступае ў друку з вершамі, падрыхтаваў да публікацыі новую паэтычную кнігу. Лёля Багдановіч шмат робіць па яднанні творчай моладзі ў Барысаве. Алесь Камароўскі перадаў для друку новыя аповесці на тэмы сучаснага жыцця.

— Мяне ў творчых зацікаўленнях займае лёс Максіма Багдановіча, — дзеліцца развагамі азербайджанскі літаратуразнаўца і наш калега па творчым саюзе Ісфандзіяр Вагабзадэ. — Лічу, што яго трэба як мага шырэй прадстаўляць і на азербайджанскай мове, мове вялікіх паэтаў, вялікіх майстроў прыгожага пісьменства.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Крылы душы

Творчая сустрэча з пісьменнікам, галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктарам Шніпам «Мая ж душа, як птушка…» адбылася ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы і прымеркавана да 55-гадовага юбілею паэта. Мерапрыемства ініцыявана Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

Віктар Шніп — лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне мастацкай літаратуры (2008) за кнігу «Страла кахання, любові крыж», а таксама прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага Савета Міністраў Грузіі (1987) за зборнік «Гронка свята». Віктар Анатольевіч — аўтар больш як 20 паэтычных і празаічных кніг.

Падчас імпрэзы вершы юбіляра гучалі ў выкананні супрацоўніц Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Таццяны Ушылавай і Вольгі Шаўчэнка. Міхась Пазнякоў назваў В. Шніпа творцам вызначальным для развіцця сучаснай паэзіі, бо яго лірыка — увасабленне высокага таленту, шырыні і глыбіні тэматыкі, гістарызму і сучаснасці. Шмат робіць Віктар Анатольевіч і для будучыні айчыннага прыгожага пісьменства.

Далучылася да віншаванняў і вядучая вечарыны, галоўны спецыяліст МГА СПБ Іна Фралова. В. Шніп — рэдактар двух яе паэтычных зборнікаў. Песні «Затрымай мяне» і «Васільковае неба» выканала студэнтка другога курса БДПУ імя Максіма Танка Марыя Хлань.

Галоўны герой імпрэзы распавёў публіцы пра сваё вучнёўскае «падарожжа да Янкі Купалы» ў Вязынку, за 10 кіламетраў ад роднага дома, здзейсненае ў 1972-м, пра ўдзел у працы літаб'яднання пры газеце «Чырвоная змена» і ў стварэнні літаб'яднання пры валожынскай «раёнцы», пра першы творчы візіт да Рыгора Барадуліна…

Паводле Дзмітрыя Пятровіча, дзякуючы творчаму плёну В. Шніпа новае дыханне атрымаў жанр балады. «Калі пералічыць імёны, згаданыя В. Шніпам у баладах, атрымаецца сур'ёзны спіс», — заўважыў Д. Пятровіч і прачытаў паэтычнае прысвячэнне юбіляру. Пабачылі гледачы і відэазапіс песні «Забыць цябе», напісанай спадаром Дзмітрыем на словы Віктара Шніпа, вершы якога гучалі падчас вечарыны і ў аўтарскім выкананні.

Свае пароды на творы Віктара Анатольевіча прадставіў паэт-гумарыст Мікола Шабовіч. Мела слова пра юбіляра і загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка.

**Яна ЯВІЧ**

# Разам пра Перамогу

Да 70-годдзя Вялікай Перамогі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі запланавана нямала культурных мерапрыемстваў. Адным з першых стала прэзентацыя зборніка «Радзіма. Адзінства. Перамога» Выдавецкага дома «Звязда».

Кніга падрыхтавана сумесна з Мінскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Укладальнік зборніка — гісторык Барыс Даўгатовіч, аўтар некалькіх дзясяткаў кніг, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне. «Радзіма. Адзінства. Перамога» — гэта апавяданні, нарысы і вершы сарака чатырох літаратараў. Розная часавая аддаленасць ад ваенных падзей абумоўлівае розніцу ва ўспрыманні вайны.

«Гэта кніга не толькі даніна памяці тым, хто здабываў Перамогу, але і актуальная падзея нашага культурнага жыцця», — зазначыў пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня» Зіновій Прыгодзіч. Намеснік дырэктара НББ Алесь Суша падкрэсліў вялікую значнасць захавання народнай памяці пра трагічныя падзеі 1941 — 1954 гг.

Аўтары зборніка Ірына Карнаухава, Алена Стэльмах, Рэгіна Рэўтовіч, Віктар Кажура падзяліліся роздумамі пра вайну, прыгадалі сваякоў, якія ўдзельнічалі ў барацьбе з ворагамі. На сустрэчы прагучалі музычныя нумары ў выкананні ўдзельнікаў народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца». Творы васьмі жывічан змешчаны ў зборніку «Радзіма. Адзінства. Перамога».

**Янка НАТАВЕЦ**

# Хаім Суцін у дарозе дадому

Легендарнаму мастаку XX стагоддзя Хаіму Суціну, які нарадзіўся ў Смілавічах Чэрвеньскага раёна, прысвечана І Міжнародная навуковая канферэнцыя «Суцінскія чытанні», якая пачне сваю працу ў бліжэйшую нядзелю, 19 красавіка.

З дакладамі выступяць дасведчаныя ў гісторыі мастацтва спецыялісты. Сярод іх Мішэль Лебрэн-Франзаролі, Марк Рэстэліні, Іна Герасімава, Іаланта Шыркайта. Усіх удзельнікаў канферэнцыі чакае экскурсія па музеі «Прастора Суціна» і знаёмства з новай залай, прысвечанай Шрагі Царфіну. З Масквы на канферэнцыю завітае дзіцячая творчая студыя «Вулей».

Будзе прэзентаваны фільм «Хаім Суцін» французскага кінарэжысёра М. Абітбола-Леві. А таксама адбудзецца знаёмства з раманам Р. Дутлі «Апошняе падарожжа Суціна». Мінскі кінадакументаліст Зоя Катовіч прадставіць удзельнікам фільм «Шрага Царфін» — пра яшчэ аднаго нашага земляка, які пакінуў адметны след у мастацтве. Дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва прэзентуе пленэр «Прастора Суціна». А выніку канферэнцыі падсумуе мастацтвазнаўца Таццяна Бембель.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

*Акцыі*

# Урок гісторыі

Напярэдадні святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі і Міжнароднага дня аховы помнікаў і гістарычных мясцін (адзначаецца заўтра) Гомельскі палацава-паркавы ансамбль правёў мемарыяльную акцыю «Памяць пра загінуўшых воінаў — памяць пра Вялікую Перамогу» каля брацкай магілы на тэрыторыі сядзібнага комплексу першай паловы XIX ст. у вёсцы Хальч Веткаўскага раёна. Да мерапрыемства спрычыніліся таксама Веткаўская раённая арганізацыя БРСМ і Хальчанская базавая школа. Хальч вызвалілі 15 лістапада 1943 года падчас Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі. Немцы стварылі тут магутныя ўмацаванні з трох ліній абароны. Баі ішлі цяжкія... Каля тысячы савецкіх салдат і афіцэраў аддалі жыццё за вызваленне гэтай беларускай вёскі.

Пра гераічныя падзеі нагадваюць дзве брацкія магілы. Адна з іх, дзе пахаваны 363 савецкія воіны, размешчана на тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу. У 1953-м быў пастаўлены помнік — скульптура салдата. Брацкая магіла ўключана ў спіс помнікаў гісторыі і культуры, якія ахоўваюцца дзяржавай.

Акцыя прысвечана памяці савецкіх воінаў, што загінулі пры вызваленні Беларусі, і мусіць спрыяць захаванню мемарыяльнага комплексу. У межах мерапрыемства супрацоўнікі музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля правялі музейны ўрок гісторыі пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны, звязаныя з вызваленнем Хальча ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Былі добраўпарадкаваны брацкая магіла і навакольная тэрыторыя.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Госця нябесная

**«Паэт, мастак і кампазітар, // Як тры вялізныя кіты, // Са словаў, гукаў і палітры // Будуюць вечнасці масты…» Гэтымі радкамі распачалася прысвечаная Сусветнаму дню паэзіі вечарына сяброў літаб'яднання «Натхненне» ў барысаўскім Палацы культуры.**

Павіншаваць паэтаў прыйшлі навучэнцы мясцовай музычнай школы. У выкананні ўзорнага аркестра народных інструментаў (кіраўнік — Алег Клопаў) прагучала некалькі твораў, у тым ліку і паланэз Агінскага «Развітанне з радзімай». Дзве мелодыі з кінафільма «Агні вялікага горада» выканаў Максім Міцкевіч. Не засталіся ўбаку і вучні СШ № 10: юныя ўдзельніцы беларускамоўнага гуртка «Ліхтарык» (кіраўнік — Раіса Грынь), чыталі вершы членаў літаб'яднання. А навучэнцаў ўзорнага тэатра-студыі «Нюанс» (СШ № 7) уразілі публіку кампазіцыяй па матывах калектыўнага зборніка гумарыстычнай паэзіі «З усмешкай і ўсур'ёз». Кранальна выконвала песні ўдзельніца рэспубліканскага конкурсу «Гарады, што спяваюць» Юля Стэфановіч. Узняў настрой і дарослым, і дзецям клоўн Саша Комар. А Мікола Зіноўеў зачараваў залу выкананнем пад гітару старадаўніх рамансаў.

Павіншавала сяброў «Натхнення» і член прэзідыума Савета ветэранаў Ларыса Белая.

**Лёля БАГДАНОВІЧ, кіраўнік літаб'яднання «Натхненне»**

# Чаканая сустрэча

Зэльвенскія сакавіны даўно вядомыя ў сталіцы сярод творчых людзей. Дзякуючы ўраджэнцу Зэльвы паэту Уладзіміру Мазго кожны год у набліжае падарожжа з Мінска ў «раённую сталіцу» паэта выпраўляюцца ўсё новыя і новыя члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, кампазітары, артысты.

Сёлета гасцямі сакавін, акрамя самога Уладзіміра Мазго, сталі Анатоль Зэкаў, Іван Саверчанка і Дзмітрый Качароўскі.

Арганізатары свята — бібліятэкары Зэльвенскай раённай бібліятэкі — парупіліся, каб дзея была цікавай для ўсіх аматараў слова і музыкі. На медыяэкране падчас выступленняў гасцей паказваліся звесткі пра іх жыццё і творчасць. Выконвалі песні артысты мясцовага Дома культуры. Сардэчна віталa гасцей Клаўдзія Крэчка, галоўны рэдактар газеты «Праца». «Раёнка» ахвотна папулярызуе сакавіны і творы іх удзельнікаў.

Уладзімір Мазго кожны свой прыезд на радзіму выкарыстоўвае для справаздач перад землякамі. Вось і сёлета ён расказаў пра сваю працу ў часопісе «Нёман», пра новыя кнігі. Асаблівую ўвагу прысвяціў «Нёману», бо гэты часопіс адзначае 70-гадовы юбілей.

Узнагародай для паэта-земляка стала дэкламацыя яго вершаў са зборніка «Слоны с луны». Удзячны паэт падарыў кожнаму чытальніку (дарэчы, вучням яго роднай школы) па зборніку.

**Яніна ШМАТКО**

*Падпіска — 2015*

# З «Вожыкам» па жыцці

...ідуць чытачы і супрацоўнікі цэнтральнай бібліятэкі імя У. Маякоўскага г. Наваполацка. Для многіх часопіс вядомы з дзяцінства. Некалькі год таму нованалачане актыўна ўдзельнічалі ў конкурсе да 70-годдзя часопіса і нават атрымалі перамогу ў адной з намінацый.

Незабыўным было запрашэнне рэдакцыі на вечарыну ў Дом літаратара, дзе падводзіліся вынікі творчага спаборніцтва. Знаёмства з «вожыкаўцамі» і творчымі калектывамі Мiншчыны па-добраму ўразіла — супрацоўніцтва з часопісам працягваецца. Нядаўна па ініцыятыве рэдакцыі ў цэнтральнай бібліятэцы тры тыдні працавала выстаўка мастака-графіка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Сяргея Волкава «З "Вожыкам" па жыцці».

Адкрыццё экспазіцыі ператварылася ў захапляльную вечарыну-экскурс. Спачатку — у гісторыю «Вожыка»: пачыналася ўсё з газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Публіка ўважліва слухала цікавы расповед вядучай і адмысловае чытанне гумарыстычных вершаў, фельетонаў, баек. Даведаліся і пра творчасць мастака-графіка, карыкатурыста Сяргея Волкава.

**Лідзія ПОЛАЗАВА**

# Ад Мсціслава да Брацка

Творчая сустрэча з айчынным празаікам Алегам Жданам (сапраўднае прозвішча — Пушкін) адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Сюды завіталі сябры пісьменніка, калегі па пяры і землякі мсціслаўцы.

Падчас імпрэзы Алег Аляксеевіч распавёў публіцы пра свой жыццёвы і творчы шлях. Геаграфія яго падарожжаў уражвае: ад малой радзімы — Мсціслава — да Ташкента і Брацка. І рабочых месцаў ды пасад творца памяняў багата: ад будаўніка Карагандзінскага металургічнага завода да супрацоўніка Беларускага тэлебачання і рэдактара аддзела прозы часопіса «Нёман», у якім працуе і сёння.

Убачылі гледачы і ўрывак з фільма «Шчыры, разумны, нежанаты», сцэнарый якога стварыў Алег Ждан. Увогуле, творчы дыяпазон Алега Аляксеевіча надзвычай шырокі: у яго арсенале — і гістарычныя раманы, і кнігі для дзяцей.

Сустрэча праходзіла ў фармаце адкрытага дыялогу: пісьменнік адказваў на самыя розныя пытанні аўдыторыі. Урыўкі з твораў па-майстэрску выканалі маладая актрыса і рэжысёр Аляксандра Шпартава ды ўнучка Алега Аляксеевіча. А ў аўтарскім выкананні прагучаў урывак з кнігі «Князь. Гасударыня. Епіскап».

**Яна ЯВІЧ**

# ЛіМ-каляндар

**16 красавіка** — 80 гадоў Анатолю Клышку, пісьменніку, крытыку, перакладчыку, педагогу, заслужанаму работніку культуры Беларусі.

**18 красавіка** — 75 гадоў Эдуарду Ханку, кампазітару, народнаму артысту Беларусі, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР.

**23 красавіка** — 75 гадоў пісьменніку Віктару Казько, лаўрэату прэміі імя М. Астроўскага (1975), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982).

**27 красавіка** — 85 гадоў жывапісцу Маю Данцыгу, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР (1973), народнаму мастаку Беларусі (1995).

**28 красавіка** — 60 гадоў паэтэсе Маргарыце Гаравой.

*Конкурсы*

# Перамагла паэзія

Дар'і і Рыце Бараноўскім па дзесяць гадоў. Разам са сваімі аднакласніцамі Янай Грыбоўскай і Віялетай Гарадзецкай яны прыехалі з Ганцавіч на рэспубліканскі конкурс паэтычнай творчасці ў Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы комплекс «Зубронак». Усе юныя творцы сталі пераможцамі і прызёрамі творчага спаборніцтва. У гэтым, безумоўна, вялікая заслуга настаўніцы беларускай мовы Галіны Мікалаеўны Пупач, якая прывіла дзяўчынкам любоў да роднага слова, беларускай літаратуры, натхніла на паэтычныя спробы.

Конкурс праходзіў па шасці намінацыях: «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся», «Філасофская лірыка», «Пейзажная лірыка», «Вершы пра жывёл», «Вершы для дзяцей», «Грамадзянская лірыка». У марафоне ўдзельнічалі 25 школьнікаў з розных рэгіёнаў краіны. Прагучалі вершы на беларускай і рускай мовах у выкананні юных паэтаў.

Аўтарытэтнае журы, у якое ўваходзілі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» Уладзімір Ліпскі, пісьменнікі Зіновій Прыгодзіч і Навум Гальпяровіч, вызначылі пераможцаў. Імі сталі, акрамя названых дзяўчынак з Ганцавіч, Анастасія Падрабінкіна з Магілёва, Маша Грамакова з Магілёва, Марыя Станкевіч з Мінска, Анастасія Лобач з Мядзельшчыны. Госці з Мінска сустрэліся з усімі «зубранятамі», пазнаёмілі дзяцей са сваёй творчасцю, падарылі кнігі для бібліятэкі.

**Анастасія ЗАДАРОЖНАЯ**

# Казкі земляка

У Рагачоўскай сярэдняй школе № 3 адбылося свята «Зліваюцца гукі і словы ў рэчышча роднай мовы», прысвечанае беларускай мове і літаратуры. У імпрэзе бралі ўдзел супрацоўнікі дзіцячага аддзела Цэнтральнай раённай бібліятэкі, педагогі школы і самыя актыўныя чытачы кніжніцы.

У праграме свята — кніжная выстаўка твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў, знаёмства з выданнямі пісьменніка-земляком. Быў на свяце і казачны Дзед Абыдзісвет, які зладзіў для вучняў 3 — 6-х класаў гульні і віктарыны, падчас якіх хлопчыкі і дзяўчынкі прадэманстравалі выдатнае веданне мовы і літаратуры.

Завяршылася свята сцэнкай па матывах казкі Міхася Сліва «Як кнігі дзяўчынку выхавалі» з удзелам бібліятэкараў і юных чытачоў.

**Таццяна СТАНІСЛАВА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**22 красавіка** — *на творчую сустрэчу маладых паэтаў з навучэнцамі гарадскога навучальна-аздараўленчага цэнтра «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**23 красавіка** — *на прэзентацыю кнігі «Па праве жывога», прысвечанай 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**23 красавіка** — *на ўрачыстае адкрыццё пакоя баявой славы «Юныя абаронцы Айчыны» ў гімназіі № 7 (вул. Захарава, 56). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**23 красавіка** — *на фінальны этап гарадскога конкурсу чытальнікаў мастацкіх твораў сярод вучняў, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак у 14.30.*

**23 красавіка** — *у паэтычны клуб «Парнас» на свята маладой паэзіі «Водгукі памяці», прысвечанае юбілею перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**24 красавіка** — *на прэзентацыю патрыятычнага конкурсу буктрэйлераў, прысвечанага Году моладзі і 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў Доме літаратара (вул. Фрунзэ, 5, 2 паверх). Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Лідзія ВОЗІСАВА



### Рэчка Вуць

*Мяне люляла рэчка Вуць,*
*Гукала плынь удалячынь.*
*Мне б час той колішні вярнуць,*
*Паплакаць на яго плячы.*

*Памераць хвалі басанож,*
*Прылегчы б у траву палын,*
*Паспавядацца, але ўсё ж*
*Не супыніць рачулкі плынь…*

*Ды лепш не думаць пра гады,*
*Якія адплылі ў нябыт.*
*Іх рэчка чысцінёй вады*
*Абмыла, як старэнькі плыт…*

*Я ва ўспамінах зазірну*
*У запаветны мой куток,*
*Уецца разам з рэчкай Вуць*
*Жывы душы маёй выток.*

### Свой дом

*Свой дом, дзе нарадзіла маці, —*
*Цяпло вачэй яе і рук,*
*Калыскі рып і печ у хаце,*
*Дзе першы крок твой,*
*першы гук,*

*Ручнік, дзе пеўнікам узоры,*
*Дзе пугай ляскае пастух…*
*Тут сэрца саграваюць зоры,*
*Агонь Купалля — не патух.*

*Калі свой дом, сваю планету,*
*Як слова роднае, збярог,*
*Тады ты — гаспадар Сусвету*
*І творца сам сабе, як Бог!*

### З паэтам побач

*Каля чужога гора плётак зграя,*
*Падай яму руку сваю хутчэй!*
*Бо толькі дужыя*
*дапамагаюць*
*Не ўпасці тым,*
*хто не дайшоў яшчэ.*

*Сапраўдны сябра:*
*радуецца шчыра*
*Узлёту, новым творам сябрука,*
*Бо разумее: рог багацця — ліра,*
*Дзе не бяднее*
*Боская рука.*

*А хто зласловіць*
*за спіной паэта,*
*Падобны да зайздросніка*
*найперш,*
*Бо ўжо не ён увагаю сагрэты,*
*А творца і ягоны новы верш.*

*І прыйдзе час. Бог з намі загаворыць,*
*Пакуль жа ён шчыруе над зямлёй…*
*А чалавек уласны лёс*
*сам творыць:*
*Хто — вершам,*
*хто — падтрымкай,*
*хто — хлуснёй.*

## Генадзь ГОВАР



### Разганіце мой сум

*Разганіце, нашчадкі, мой сум,*
*Зажывіце, урэшце, розумам…*
*Не чужым, дзе знявага і глум,*
*А сваім гаспадарскім роздумам.*
*Ды ці ўбачу натхнення плён,*
*Нат пачатак, старт адраджэння?..*
*Зняў міленіум з нас праклён*
*І не будзе яму абвяржэння.*
*Разганіце, нашчадкі, мой сум,*
*Зажывіце, урэшце, розумам!*
*Праз вясёлы святочны тлум —*
*Да вышыняў, асвенчаных роздумам!*

### Бялюткія лебедзі

*У небе блакітным,*
*Над лесам зялёным,*
*Бялюткія лебедзі*
*Клінам ляцелі…*

*На возера Нарач*
*Спяшаліся нанач.*
*У небе блакітным*
*Бялелі, бялелі…*

*Бялюткія птушкі*
*У небе блакітным,*
*Над лесам зялёным,*
*Гукалі сваіх…*

### Зіхаціць вясна

*Сонейка засвеціцца,*
*Усміхнецца ветліва,*
*Залатымі промнямі*
*Ахіне мяне.*
*Поглядам вясёлкавым,*
*Подыхам малінавым,*
*Жвавасцю няўрымслівай*
*Маладосць крane…*
*Недарэмна сёлета*
*Абуджальна-радасна,*
*Шчыра і гарэзліва*
*Зіхаціць вясна…*

### Рай зямны

*У лепшай з кніг, што кожнаму*
*адкрыта, —*
*У кнізе Неба —*
*ёсць страфа*
*Зямля…*
*Яе пяю, чытаючы нібыта,*
*Яе малюю зблізку і здаля.*
*У кнізе Неба з зорнымі радкамі*
*Страфа Зямля прывабліва мігціць*
*І хлебам жытнім з цёплымі бакамі*
*У рай зямны ўсё кліча пагасціць…*

## Ганна МІКЛАШЭВІЧ



***

*Вандроўка па родных мясцінах…*
*Як сэрца шукае пяшчоты*
*На мілых шляхах-пуцявінах…*
*Далёка зямныя турботы.*

*Душа мая вольнага ветру*
*Удыхнула на поўныя грудзі…*
*Балоты, лясы, кіламетры,*
*Гасцінныя шчырыя людзі.*

*Бярозак і сосен шаптанне*
*Радзімую песню мілуе,*
*Нібыта ў дзяцінства вяртанне…*
*Святло Беларусі чаруе…*

*Усё гэта поўніць адвагай,*
*Палоніць зямля прыгажосцю…*
*Мой край, чысціні тваёй прагну,*
*Дачка я твая, а не госця.*

***

*Вясна глядзіць у вокны смела,*
*Даволі, любы, сумаваць…*
*Бач, сонейка душу сагрэла*
*І сэрцу хочацца спяваць,*

*Бо шчыра мы глядзім у вочы*
*Сусвету, людзям і зямлі…*
*Нам Бог каханне напрарочыў,*
*Мы разам столькі год былі…*

*І сёння ты — маё натхненне*
*Жыцця, надзеі ды вясны…*
*Мо нехта скажа: летуценне,*
*Не вер у казачныя сны…*

*Як жыць без веры у каханне,*
*Без песні душ, малітвы воч…*
*Маё прыгожае прызнанне*
*Бяздумным словам не суроч…*

***

*Перагортваю нашу старонку*
*У кнізе маёй жыццёвай.*
*Не стала табе я жонкай,*
*Жыццё не напішаш нанова…*
*Душу хай вядуць успаміны*
*Пяшчоты, цяплом сагрэтай,*
*І водар духмянай маліны,*
*І пахі ляснога лета…*
*Птушынае шчабятанне*
*І песня малой крыніцы…*
*Чакай, жураўлінае ранне,*
*Табе не дагнаць сініцы,*
*Якая ў тваіх далонях*
*Чакала шчырай спагады…*
*А сёння з сонечных промняў*
*Клічуць яе далягляды…*
*Сініца заціньквае звонка —*
*Вітанне раніцы новай…*
*Адкрыю нашу старонку*
*У кнізе маёй жыццёвай…*

***

*Жыві як ведаеш, як хочаш,*
*А я з табой хацела быць…*
*Ты ўсё мяркуеш і прарочыш,*
*А трэба жыць як набяжыць…*
*Кахаць, любіць, у казку верыць,*
*Знаходзіць моц у дабрыні,*
*Іскрынку боскага даверу,*
*Каб не гібелі дзень пры дні*
*Пачуцці шчодрыя і мары,*
*Лагода вышняга святла,*
*Каб зведала душа абшары*
*Таго, вышэйшага, жытла,*
*Каб смела зазірнуць у вочы*
*Без сораму і перашкод,*
*Каб напаўняла шчасце ночы*
*І дзень свяціў ад году ў год.*

***

*Мая душа яшчэ жывая:*
*Бурліць, іграе, цепліць кроў…*
*Я кожнай жылкай адчуваю*
*Каханне, шчырасць і любоў.*
*А што той сон, такі балючы,*
*Ён працінае, бы скразняк.*
*Ты маё сэрца не прыручыш,*
*Не разумееш ты, дзівак,*
*Што вольнай птушкай ў паднябессі*
*Крыляю, і душа пяе*
*З пачуццяў вытканую песню.*
*Прыслухайся, пачуй яе…*
*Адрынь ты страхі і сумневы,*
*Ідзі насустрач, шырай крок!*
*Не папялушкай — каралевай*
*Ускладала шчасця я вянок…*

***

*Ветру спеў у сузор'і сноў,*
*Споведзь зор у начным абшары.*
*Дзякуй богу, што ты прыйшоў*
*І расквеціў жыццё ды мары.*
*Я не ўмею цурацца рук,*
*Чараўнік мой, спасланы лёсам,*
*Гаманлівага сэрца гук*
*Даражэй мне за ўсе дзівосы.*
*У Сусвеце бліжэй за цябе*
*Толькі Бог, за грахі распяты.*
*Ты і ў шчасці маім, і ў журбе…*
*Я кахаю, ці ж я вінавата?..*
*Я спатолю міжвольны страх,*
*Праганю адзіноту з сэрца*
*І цяплом у тваіх вачах*
*Буду грэцца…*



Фота Кастуся Дробава

Надзея ВЕЧАР

# Васілёк



Гляджу на шасцігадовых хлопчыкаў, і сэрца сціскаецца ад болю. Як яно выжыла, гэтае маленькае, залюбленае сям'ёй дзіцятка, сярод чужых, незнаёмых людзей, яшчэ і захаваўшы чысціню душы?

Рос хлопчык Васілька ў вялікай дружнай шляхецкай сям'і. Бацька быў разумным і працавітым, крыху суровым чалавекам, маці — найпрыгажэйшай, мудрай, добрай, ласкавай жанчынай. Пяцёра сыноў. Адзіная дачка памерла, і малодшанькі, такі разумненькі, сінявокі, з белым хвалістым чубам Васілёк быў улюбёнцам сям'і. Жылі яны ў вёсцы Смольгава Любанскага раёна. Навокал — маляўнічыя беларускія мясціны. Летам збіралі грыбы і ягады, вазілі на базар у Слуцк. Грошы былі патрэбны, каб пабудаваць новую хату ды вучыць траіх старэйшых, бо дзеці ў сям'і былі вельмі таленавітыя.

Надышоў 1929 год. Сям'я перасялілася ў вялікі, прыгожы, новы дом. Пад вокнамі драмаў у карунках з інею вялікі сад, дзе размясціліся, бы казачныя, дамочкі з пчоламі. Тры старэйшыя браты вучыліся ў горадзе. Пры бацьках засталіся малодшанькія: шасцігадовы Васілёк і дзесяцігадовы Ванечка. Нягледзячы на ўзрост, ва ўсім дапамагалі па гаспадарцы. Вось такая ўсталявалася сямейная ідылія.

Калі вясновым днём тыя страшныя людзі ішлі раскулачваць, бацька выпхнуў дзяцей у двор і сказаў: «Бяжыце ў іншыя вёскі і больш ніколі-ніколі сюды не вяртайцеся». Аднак смелыя і кемлівыя хлапчукі адразу не ўцяклі — спачатку вырашылі дапамагчы бацькам. Пакуль у доме ішоў вобыск, паадчынялі крышкі вулляў і раздражнілі пчол, а самі схаваліся за хлявом. Пчолы запоўнілі паветра ў двары, з гулам кідаліся на незнаёмцаў. Тыя не змаглі адбіцца ад пчол і са словамі «Здохнуць і самі!» пакінулі двор, не знайшоўшы дзяцей...

Хлопчык Васілёк, зусім схуднелы, у заношанай кашульцы і кароткіх штоніках, пасвіў гусей у далёкай радні, за дзясяткі кіламетраў ад роднай вёскі. Ён быў вельмі добрым, гусі гэта адчувалі і ніколі не шыпелі на яго, не шчыпаліся. Васілёк умеў сябраваць, і да яго пацягнуўся суседскі хлапчук. Кожны дзень прыбягаў, прыносячы ў кішэні вараную бульбіну. Васілёк лічыў яго лепшым сябрам. Ужо дарослым ён зразумеў, што тая бульба ратавала яго ад галоднай смерці. Нягледзячы на перажытыя страшныя гады ліхалецця, захаваў душэўную дабрыню, усё жыццё дапамагаў людзям і быў прыкладам для іншых.

Гэта мой тата, я ім ганаруся. Не кожнаму пашчасціла мець такога: разумнага, прыгожага, працавітага, уважлівага, клапатлівага, высакароднага. У вайну наводзіў пантонныя пераправы праз прыфрантавыя рэкі ў Польшчы і Германіі — пад кулямі і бамбёжкамі, у ледзяной вадзе, што падарвала здароўе. Скончыў вайну на Далёкім Усходзе. Пасля пацягнула на радзіму, аднак у бацькоўскім доме размясцілі клуб. Ішоў 1947 год. Знайшоў у адной з вёсак Любаншчыны толькі брата Ваню, пакалечанага вайной. Заўсёды клапаціўся пра яго і яго дзяцей. Успамінаю: калі жыў на здымнай кватэры, у паштоўку да брата ўкладваў 3-5 рублёў, калі на сям'ю з чатырох чалавек заставалася няшмат з настаўніцкай зарплаты.

Дапамагаў бацькам мамы, даглядаў сад і пчольнік, пра якія ў пісьмах турбаваўся іх малодшы сын, што загінуў на фронце.

Потым пабудаваў уласны дом, высадзіў не адзін сад, развёў пчол. Дом, цёплы і ўтульны, стаіць дагэтуль, бо будаваўся з душой, дапамагалі і сябры, і мамія радня. Сады вырошчваў з адборных зярнятак, прышчэпліваў лепшыя гатункі яблынь і груш. За «шчэпамі» ішлі людзі з блізкіх і далёкіх вёсак. Ніколі ні з кога тата не браў ні капейкі.

Кожны год заставалася 1-2 вядры мёду «на раздачу», калі хто ў якой сям'і хварэў. Жадаючым завесці свой пчольнік раздаваліся па чарзе пчаліныя раі. Потым тата навучаў і дапамагаў іх даглядаць, бо трымаць пчол вельмі няпроста: патрэбны веды і старанне.

Тата завочна скончыў фізіка-матэматычны факультэт педінстытута. Адкладваючы паўгода грошы з кожнай паездкі на сесію, прывозіў для мяне паўчамадана шакаладу, каб хапіла да наступнай, бо лічылася, што шакалад падтрымлівае здароўе. У чатыры гады я ўжо добра гуляла ў шахматы і шашкі, спявала і танчыла, ведала шмат вершаў, бо тата прывозіў прыгожыя кніжкі. Аднойчы прывёз прыёмнік, працягнуў антэну, і мы кожны вечар слухалі задушэўныя песні, радыёпастаноўкі.

Яшчэ тата купіў мне санкі, лыжы і канькі, а ў шэсць гадоў даверыў новы фотаапарат, і фатаграфаванне стала адным з маіх любімых заняткаў. Потым купіў прылады для настольнага тэніса, валейбола, бадмінтона... Калі ж у дзясятым класе мяне папрасілі замяніць захварэлую дзяўчынку ў ролі Снягуркі, усю ноч нашываў упрыгожанні на сукенку, бо падрыхтаваная раней аказалася малаватай.

Успадчыненыя ад продкаў шляхецкія звычкі акуратнасці ва ўсім прывіваліся і мне, і іншым вучням. Тата выкладаў у старэйшых класах матэматыку, быў вельмі патрабавальны — як да сябе, так і да навакольных. Усе задачы рашаў спачатку сам, бо ў падручніках сустракаліся памылкі. Калі я вучылася ў старэйшых класах, даручыў гэта мне. На ўступных іспытах у БПІ выкладчыкі з іншых аўдыторый прыходзілі паглядзець на дзяўчынку, якая на пісьмовым экзамене па матэматыцы менш чым за дзве гадзіны выканала заданне і перапісала начыста. Політэхнічны быў выбраны таму, што там вучылася большасць выпускнікоў школы... Тата перапісваў усе прозвішчы вучняў у сшытак і адзначаў, хто куды пасля паступіў.

Некалькі гадоў таму ў мінскай сяброўкі сустрэла старэйшую на шэсць гадоў выпускніцу нашай школы. Яна вельмі ўзрадавалася і адразу загаварыла пра тату:

— Ён строга ставіўся да хлапчукоў, патрабаваў не толькі падрыхтоўкі да ўрокаў, а і знешняга выгляду: каб вопратка была чыстай і адпрасаванай, абутак начышчаны, чубы падстрыжаныя. Хлопчыкі яго пабойваліся, а ўсе дзяўчынкі былі тайна закаханыя ў самага прыгожага настаўніка школы, таму стараліся добра вучыцца і выглядаць прыгожа.

Тое ж казаў аднакласнік, калі мы сустрэліся ва ўтульным мінскім рэстаране. Ён, троечнік, паступіў у радыётэхнічны, потым скончыў мараходку ў Ленінградзе. Працаваў памочнікам капітана на караблі, некалькі разоў аб'ехаў зямны шар.

— Я разумею цяпер, чаму Васіль Іванавіч не даваў мне спакою і выклікаў да дошкі амаль на кожным уроку. Ён бачыў, што я маю здольнасці і змагу дасягнуць нечага большага ў жыцці, калі не буду ленавацца. Дзякуючы яму я пачаў рыхтавацца да ўрокаў.

Кожны, хто сутыкнуўся ў жыцці з маім татам, знойдзе, за што ўспомніць яго добрым словам. А ў мяне на ўсё жыццё засталася звычка заступацца за слабых, дапамагаць людзям нават тады, калі не просяць. Што ёсць здрада, хлусня, зайздрасць і захоп чужога — нават не абмяркоўваецца.

На вялікі жаль, на запыты таты пра яго бацьку і братоў адказы прыходзілі несуцяшальныя.

Жыццё маё было вельмі няпростым, аднак калі апаноўваў адчай, успаміналa маіх продкаў і ўсё рабіла для таго, каб перад імі не было сорамна.

# Ігар



Фота Кастуся Дробава

Ён быў малодшым братам маёй мамы. Таленавітыя, прыгожыя, выхаваныя і добразычлівыя, выхадцы са збяднелай шляхты. Жылі ціха і дружна. Ігар быў высокі, прыгожы, з рыжым чубам і блакітнымі вачыма. Вельмі здатны да навук. Рос у голадзе і холадзе, бо раскулачылі бацькоў: праз новую хату. Усё забралі. Людзі з суседняй вёскі разбурылі тую прыгожую хату і вывезлі, каб паставіць на сваім падворку. Бацьку выслалі, а маці засталася адна з трыма малымі на руках. Ігар стараўся браць на сябе ўсю мужчынскую працу. Вучыўся толькі на «выдатна». Умовы задач чытаў на хаду, бо да школы трэба было ісці шэсць кіламетраў. У памяці іх рашаў, а прыйшоўшы ў клас, хуценька запісваў. Дапамагаў у вучобе і па гаспадарцы ўсім, хто б ні папрасіў. Вельмі любіў людзей, усіх шкадаваў, з усімі сябраваў.

Зусім юным быў адпраўлены на фронт. Так і застаўся хлапчуком, бо загінуў у 1945 годзе на подступах да Берліна.

Бой прыціх, бо ўсе ведалі: на высотцы сядзіць снайпер і б'е без промаху. Перад акопам ляжаў паранены ў жывот камандзір, стагнаў ад болю, прасіў дапамогі. Ігар, чулы хлопец, высунуўся з акопа. Куля прабіла каску...

Не засталося нават ніводнага яго фотаздымка. Застаўся толькі маўклівы боль родных. Цяпер цётачка, яго сястра, кожны дзень перачытвае пісьмы Ігара з фронту. Такія патрыятычныя, узнёслыя, поўныя трывогі за родных: «Як вы там без мяне?»

Камандзір застаўся жывы і пасля вайны прыязджаў да маці падзякаваць за такога сына. Але хіба гэта зменшыла яе боль?

Сябар Сцёпа прыходзіў дапамагаць са словамі: «Я — за Ігара!» У яго сябрамі былі ўсе вясковыя хлопцы. Вось і хата засталася, якую пабудаваў Ігар у час вайны з дапамогай сяброў.

Хлопцы запрагалі вясковых коней у сані, за іх чаплялі яшчэ адны сані меншага памеру, каб лягло бервяно на ўсю даўжыню. Так, кожны па адным бервяне, вазілі з лесу, калі ў вёсцы не было акупантаў. Каб партызаны ў лесе не забралі коней, з імі ехаў салдат-акружэнец, армянін Кіроп, якога Ігар схаваў, калі прыйшлі немцы.

У той прабабулінай хацінцы не было дзе павярнуцца, і праз некаторы час Ігар адвёў Кіропа да сваякоў. Потым Кіроп пайшоў у партызаны, а з наступленнем савецкіх войскаў — зноў на фронт.

Калі бярвенне было завезена, Ігар сам апрацаваў яго, а сябры дапамаглі скласці хату. Закончыць не паспеў — пайшоў на фронт. Так і правекавалі бацькі ў недабудаваным жытле.

Вяскоўцы выратавалі хату са страшэннага пажару ў вёсцы, калі згарэлі тры суседнія дамы. Пасля смерці Ігаравых бацькоў ніхто не адважыўся прадаць яе. Стаіць хацінка і цяпер, ледзь трымаецца, у далёкай вёсцы, як помнік кожнаму трэцяму беларусу — ахвярам ваеннага ліхалецця.

Засталіся лісты з фронту, у якіх пісаў не пра сябе, а распытваў пра радню і вяскоўцаў. Навіны пра знаёмых, з кім побач ваяваў, пра тых, з кім выпадкова сустракаўся ці перапісваўся. Турбаваўся пра здароўе маці, пра недабудаваную хату. Пісаў на шматках паперы, якія змог знайсці.

Пра яго ніколі не гаварылі, баючыся ўчыніць боль іншым сямейнікам.

Вось што пісаў у апошніх лістах з фронту:

«Убачымся, калі разаб'ём праклятага ворага...

Вызваляем братоў і сясцёр, угнаных на катаргу ў Германію. Па дарозе нам насустрач ідуць дзяўчаты і хлопцы з розных месцаў нашай Радзімы...

Рухаемся ўперад, да берлагу ворага. Ужо перайшлі Віслу і прайшлі каля 90 кіламетраў. Крок за крокам усё бліжэй і бліжэй да логава ворага, значыць, усё бліжэй да канца вайны ...»

У лістах — сум па родных, па сябрах. На Ігару трымалася гаспадарка. Ён марыў пра дом і так чакаў зусім ужо блізкай Перамогі!

Малодшая сястра, для якой ён быў узорам ва ўсім, усё жыццё перачытвае гэтыя пісьмы. На некаторых працёрся ці прапаў чарнільны тэкст.

— Ён усё жыццё са мной побач. Чытаючы, як быццам размаўляю з ім.

Замуж так і не выйшла, бо не сустрэла такога, якім быў яе любімы брат. Калі хто пытаўся, чаму ж такая прыгожая і адукаваная дзяўчына адна, адказвала:

— Мае жаніхі палеглі там, на палях баёў.

Колькі жанчын засталося адзінокімі, колькі дзетак не нарадзілася, колькі таленавітых людзей загінула, не працягнула свой род!

Сяброў мы выбіраем па тым жа прынцыпе: ці можна з імі ісці ў разведку...

Празаічна

# Віна перад класікай

У працы выкладчыка радасць ад магчымасці «з цэлым народам гутарку весці» кампенсуецца адказнасцю за тую самую гутарку. А калі раптам ніякай віны за сабой не адчуваеш, то людзі нагадаюць, бо мае студэнты-журфакаўцы занадта навідавоку не толькі са сваімі дасягненнямі, але і са сваімі хібамі.



Аксана БЯЗЛЕПКІНА

Некалькі гадоў таму ў інтэрнэце сярод удзельнікаў літпрацэсу доўжыўся флэшмоб: трэба было назваць 10 твораў беларускай літаратуры, якія паўплывалі на свядомасць, на развіццё асобы, а мо нават вызначылі жыццё. І пісьменнікі з пакалення «тутэйшыя» зацята называлі ў сваім спісе апавяданне Міхася Стральцова «Смаленне вепрука».

Калі я была студэнткай, нам апавядалі пра магчымы выдавецкі праект: па адным лепшым апавяданні ад кожнай літаратуры пад адной вокладкай. І сцвярджалі, што ад беларускай літаратуры там павінен быць Стральцоў менавіта з гэтым апавяданнем. Я люблю пра гэты неадбыты праект расказваць студэнтам, бо лірычная проза часам патрабуе дадатковай рэкламы перад аўдыторыяй, прывучанай да сюжэтнага мастацтва.

Звычайна студэнты рэагуюць спакойна: нават калі гэтае апавяданне Стральцова пакідае іх абыякавымі, адмоўнага стаўлення яно не правакуе, бо ў гэтага пісьменніка ёсць іншыя творы, якія здаюцца больш блізкімі пры асучасненай падачы.

І вось «тутэйшаўцы» па чарзе схіляюць галаву перад Стральцовым. Але адна з маіх былых студэнтак раптам не стрывала: прайшла па блогах і паўсюль напісала, што не разумее, чаму менавіта Стральцоў, чаму менавіта гэты твор, а юнацкая катэгарычнасць ставіла пад сумнеў густ рэспандэнтаў.

Дзяўчыну з яе эмацыйнымі папрокамі праігнаравалі, а водгукі атрымала я: чаму мае студэнты не цэняць класікаў? Было непрыемна. Мяркую, гэта няправільна — патрабаваць ад юнакоў маўкліва прызнаваць нашы аўтарытэты. Ім прапаноўваеш іерархію пісьменнікаў — далей яны рухаюцца самі, пагаджаюцца або не. А эмацыянальнае скіданне класікаў — пабочны эфект сталення. Скідваю — значыць, існую.

І цяжка тут толькі выкладчыку медыйнага факультэта: штогод адказваць за эмацыянальныя выступленні студэнтаў у інтэрнэт-прасторы і СМІ, бо, як вядома з барадатага досціпу, трэцякурснікі ніколі не сталеюць.

А потым адбылася выпадковая сустрэча са старэйшым калегам у буфеце Нацыяналкі. І размова, пасля якой адчуваеш сябе слабым псіхолагам.

— Аксана, вы ж разумееце, чаму яна так напісала?

Я ўжо кіўнула галавой і хацела адгаварыцца чымсьці паныла-банальным, але размова выкіравала ў непрадказальны бок.

— Гэты твор… сярод іншага… пра віну перад бацькамі. Бацькамі, пакінутымі ў вёсцы. Пра віну цэлага пакалення. І таму ясна, чаму менавіта гэтыя пісьменнікі, а не, напрыклад, маладзейшыя, згадалі гэты твор у сваім топе. І гэтак жа ясна, чаму менавіта гэтая дзяўчына так бурна адмаўляе твор.

Разгадка сапраўды была навідавоку. Дзяўчынку выхоўвалі нядрэнныя бацькі, адносіны з якімі не складзіся. Сваю жыццёвую гісторыю яна смела распавядала ў блогу, не робячы з яе таямніцы. І я, якая сама толькі дарастала да Стральцова, бачыла ў яе рэакцыі голас пакалення, але не голас чалавека з нестандартнай асабістай гісторыяй. Калі віна перад бацькамі для некаторых студэнтаў яшчэ не была актуальнай, але і адмаўленне не выклікала, то для гэтай студэнткі пытанне было балючым і… невырашальным? Пакінутая роднымі бацькамі і не зразуметая прыёмнымі, дзяўчына не магла і не хацела адчуваць віну перад імі…

# Спакуса ядвабу

Беларускія празаікі нячаста засяроджваюцца на тэме кахання. Але Мікола Адам у сваёй творчасці нібыта кампенсуе няўвагу да адвечнай тэмы. Шчаслівыя сустрэчы, расстанні, здрады — усё гэта зноў і зноў адбываецца на старонках яго прозы.

«Шоўк» — не толькі назва кнігі і другой па ліку аповесці, але і лейтматыў чатырох змешчаных тут твораў. Шоўк — фетыш і сімвал жарсці, спакусы шалёнага кахання ў паяднанні з крывавымі момантамі. У рамане «Мыла» (2000) белы шоўкавы халацік выпадкова расхінаецца на грудзях цудоўнай актрысы Веранікі Бердник, у першай аповесці «Насця» (1999) з шоўку пашыта начная сарочка. Яго Высокасць Шоўк раскрывае ўсю сваю веліч і магутнасць у другой аповесці і сціхае ў трэцяй — «Антыгерой» (2010). Улюбёным у шоўк жанчынам творы прыйдуцца даспадобы, а вось байдужым да гэтай тканіны такое захапленне і нават часткова адухаўленне яе можа набіць аскому. Справа густу і толькі.

Імя галоўнага героя аповесці «Насця» — Мікола Адам. Аўтар называе героя сваім імем, адорвае яго пісьменніцкім талентам, збліжаючы тым самым з уласнай асобай. З набыткаў Адама — тры курсы ўніверсітэта, тонкі сшытак вершаў, пусты кашалёк, кепскія звычкі (цыгарэты «Прыма» і мора кавы), безліч таварышаў і, мусіць, ніводнага сапраўднага сябра — джэнтльменскі набор беларускага пісьменніка 1990-х. Мае герой і адзнакі таленавітасці (нельга ж лічыць свайго літаратурнага двайніка неталенавітым). «Згубленая ноччу ў гарах авечка», як сказаў бы Ф. Кафка — адзін з улюбёных персанажаў пісьменніка. На першым плане ў аповесці не творчыя ўзлёты і падзенні — адносіны самотнага чалавека з варожым для яго светам. Расквеціць гэту самотнасць, зразумела, можа толькі дзяўчына-загадка, неспасцігальная і тым жа манкая — Анастасія Мажар, ці проста Насця. Сцэнарый іх адносін пабудаваны па тыповай усходнеславянскай мадэлі і ўскладнены меладраматызмам расійскіх серыялаў. Мікола кахае так, што ад рэўнасці здольны на фізічны гвалт над сваёй каханкай, а Насця не пакідае верыць у яго лепшыя якасці і, каб ён выправіўся, стварае экстрэмальную сітуацыю са шчаслівай развязкай. Хто каго чубіць, той таго і любіць, альбо б'е — значыць кахае. У эмацыянальным парыве Мікола робіць Насці прапанову, абяцае змяніцца дзеля яе на лепшае,ператварыць іх сумеснае жыццё ў казку. Аднак эмоцыі ціпшэюць, і першая хваля саступае месца цвярозаму асэнсаванню рэчаіснасці. Адам разумее: мала што з абяцанага каханай і яе сям'і ён здольны ажыццявіць. Такая сітуацыя знаёмая многім жанчынам і дзяўчынам, хіба не так?

Можна толькі здагадвацца, што кіруе дзяўчынай: вялікае каханне альбо шкадаванне (Мікола мае цяжкую траўму галавы, атрыманую ў гарачай кропцы). Сам жа герой так і не вызначыўся, кім была для яго Насця…

Аповесць «Шоўк» — найлепшы твор для жаночай аўдыторыі. Каханню падуладны ўсе ўзросты; няма халодных, неспакушальных жанчын — ёсць мужчыны-няўмекі; пасля сарака жыццё толькі пачынаецца нават у такім правінцыйным гарадку, як Слуцк, — аксіёмы аповесці. Саракашасцігадовая настаўніца рускай мовы і літаратуры Святлана — жанчына-развядзёнка, прыгожая, але недакаханая. Ніводзін мужчына (а было іх не так шмат) не здолеў раскрыць яе сутнасць і рэалізаваць закладзены прыродай патэнцыял. Але сустрэча з маладым (удвая маладзейшым за яе) рэжысёрам мясцовага ДК змяніць жыццё Святланы кардынальным чынам. Іх цукерачна-букетны перыяд не падобны да серыяльных заляцанняў: сустрэчы ў дарагіх рэстаранах, мора кветак, вытанчаныя стравы і дарагое віно. Не, у выпадку нашых герояў усё значна прасцей: гарэлачка пад агароднінку ды бульбачка з каўбасой на сняданак. Аўтар не імкнецца сканцэнтраваць увагу чытача на знешнім флёры адносін і змушае чытачак употайкі зайздросціць фантомнай Святлане, нібы жывой суперніцы ў барацьбе за асабістае шчасце. Паступовае раскрыццё ўнутранага свету гераіні, самапазнанне і рэалізацыя сябе як жанчыны ў стасунках з каханым мужчынам — вось што цікавіць пісьменніка.




*Шоўк : аповесці, раман / Мікола Адам. — Мінск: Маст. літ., 2013. — 366 с.*

Інтрыга нараджаецца ў момант наведвання героямі занядбанай хрушчоўкі — фармальнай кватэры Міхала, — у падвале якой змешчаны адмыслова абсталяваны пакойчык для ажыццяўлення любых фантазій, навеяных Яго Высокасцю Шоўкам. «Што будзе далей? Чым скончацца для абодвух амурныя забаўкі? Каханне ці інстынкт?» — паўстаюць у галаве пытанні. Аднак развязка твора апынаецца нечаканай…

Аповесць — гатовы сцэнарый для чатырохсерыйнага фільма. Добрая гульня акцёраў, мінімум штучных дэкарацый — і айчынны кінематограф можа атрымаць прадавальную меладраму з нацыянальным каларытам. І, мусіць, не адна глядачка пакіне сакаўную «буську» на вокладцы пад выявай аўтара.

Мікола Адам ва «ўласным грайндхаусе» (так называлі кінатэатры, дзе паказвалі эксплуатацыйнае кіно) прапануе і аповесць «Антыгерой». Плацінавыя бландзінкі ў латэксе, жанчыны-вычварэнкі, баі на смерць як спосаб выхаваць з баязліўца сапраўднага мужчыну. Ад папярэдняга твора засталася хрушчоўка, у падвале якой — жорсткасць і кровапраліццё. У аповесці дзве рэальнасці — верхні свет, дзе жывуць героі і пачынаюцца падзеі, і ніжні, дзе людзі даюць волю любым вычварным жаданням. Але і без кахання не абышлося.

Істотна, што аповесці пазбаўлены пошласці і натуралістычнага апісання пікантных момантаў, і гэта дазваляе кнізе не ператварыцца ў нізкапробны каляпарнаграфічны прадукт. Аўтар не засяроджваецца на палавых інстынктах чытача, не мадэлірүе свой твор па прынцыпе літаратурнай цацкі для дарослых гульняў, а звяртае ўвагу на асобасную эвалюцыю героя. Яго персанаж заўсёды на мяжы рэальнага і выдуманага, чалавечага і жывёльнага, таннага і найдаражэйшага.

**Віялета ВАШЧЫЛІНА**

# «Мыла» з экстрактам першацвету

Што можа быць больш істотным за пошукі адзінага спадарожніка жыцця? Гэты перыяд для кожнага мае сваю працягласць, і з вышыні гадоў гульня «кахаю — не кахаю» можа падавацца дзіцячай забаўкай. Аднак магчымасць перажыць колішняе душэўнае ўзрушэнне, па-іншаму паглядзець на сітуацыю моцна трымае чытача стандартны таму на любоўных калізіях заснавана большасць вядомых літаратурных твораў.

У прозе Міколы Адама здараецца нямала непаразуменняў між блізкімі людзьмі, а персанажы — пераважна асобы творчыя і выкшталцоныя. Раман «Мыла» не выключэнне. Галоўныя героі — два браты, якія знаходзяцца ў пошуках кахання. Мікіта Корбут назаўсёды захаваў моцныя пачуцці да таленавітай актрысы Веранікі Бердник, але новае знаёмства дае новую надзею. Вадзім па волі прывабнай дзяўчыны трапляе ў такую ж непрыемную сітуацыю, якая некалі здарылася са старэйшым братам.

Абставіны вакол герояў увесь час змяняюцца, іх наступны крок абсалютна непрадказальны, што трымае чытача ў напружанні. Часам героі дзейнічаюць эфектна, але імпульсіўна і нелагічна. Навошта, напрыклад, адпрацоўваць усемагчымыя сілавыя прыёмы на сябру, з якім, па чутках, пераспала каханая? Хіба некалькіх удараў у сківіцу недастаткова? Падчас чытання нярэдка ўражваюць дзіўныя параўнанні: сняжынкі прыпадабняюцца да камікадзэ, а слабы вецер «нахабна лезе ў твар, як спартсмен на баксёрскім рынгу». На першай старонцы «Шоўка» «пацалункі прыляпляюцца да вуснаў жуйкамі, а словы чуюцца суцэльнымі арыямі і рассыпаюцца перхацю на вушы наіўных дзяўчат». Параўнанне баксёра і слабога ветру проста нелагічнае, а словы кахання (нават хлусліўыя) усё адно больш значныя за перхаць, якая стылістычна не спалучаецца з арыямі (і нават не можа быць ім супрацьпастаўлена).

Імкненне ўразіць метафарай у прозе Міколы Адама падаецца збытковым, бо пісьменнік моцны найперш псіхалагізмам — здольнасцю выяўляць душэўны стан персанажаў, неадступна фіксаваць эмацыянальную рэакцыю герояў на ўчынкі і рэплікі. Аўтар раскрывае духоўны свет не толькі мужчынскіх, але і жаночых персанажаў: жанчына-чытач жаданы госць «Шоўку», пра што сведчыць і вокладка кнігі. Праўда, светла-ружовае аблічча выдання значна звужае патэнцыяльную чытацкую аўдыторыю: наўрад ці мужчына набудзе ў кнігарні ці возьмецца гартаць на прыпынку рамантычна-сентыментальнае з выгляду «Шоўк».

Галоўны герой Мікіта Корбут па родзе дзейнасці прафесійны пісьменнік, у мінулым — таленавіты акцёр. У выніку раман цікавы не толькі як гісторыя кахання, але і як выдатная магчымасць апынуцца ў літаратурным асяроддзі Мінска самага пачатку 2000-х гадоў: некалькі разоў зазірнуць на пасяджэнні знакамітага літаб'яднання «Першацвет», патрапіць у адмысловую культурную суполку «Вулей». Некаторыя персанажы маюць сапраўдныя імёны, іншыя хаваюцца пад зменненымі, але вельмі пазнавальнымі прозвішчамі. Таму эпізоды ў Доме літаратараў успрымаюцца як замалёўкі з натуры. Пры гэтым характэрна, што наведвальнікі літаб'яднання больш заклапочаны наладжваннем асабістых кантактаў, чым пытаннямі літаратурнай вучобы.

Цяжка сказаць, якое дачыненне мае «Першацвет» да «Мыла». Але адкрыты фінал рамана на падставе ўжо вядомага дазваляе ўявіць нямала далейшых надзей і расчараванняў, рамантычных падзей у жыцці галоўных герояў. Дык хіба грайндхаус для жанчын можа абысціся без першай серыі «мыльнай оперы»?

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Мая анталогія»: Апошні верш Багдановіча

*«Мая анталогія» — задуманая кніга, прысвечаная найбольш яркім паэтычным скарбам нашай літаратуры. Гэта сустрэча сам-насам з мастацкім творам, амаль парадковы яго разгляд.*

*Ужо напісаныя і надрукаваныя артыкулы пра асобныя вершы Паўлюка Труса, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Валянціна Таўлая.*

*З творчасці Максіма Багдановіча разглядаюцца вершы «Слуцкія ткачыхі». «Пагоня». «***Здароў, марозны, звонкі вечар!» — і вось гэты.*



Малюнак Алесі Ісы

На зборніку «Вянок», што знайшлі пасля смерці пры нябожчыку, віднеўся вершчатырохрадкоўе, напісаны, відаць, у самыя астатнія часіны, калі ўжо ніякіх надзей на жыццё не засталося:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны,*
*я кнігу маю*
*З друкарні пана*
*Марціна Кухты.*

Апошні верш паэта.

Ужо ў самім рытме, здаецца, адчуваеш, як цяжка дыхаюць, западаючы, грудзі. Кожны радок якраз пасярэдзіне перараззаецца цэзурай.

Верш дыхае паўрадкоўямі з выразным метрычным складам слоў: трохскладовае слова, двухскладовае — трохскладовае, двухскладовае. Набранага паветра хапае роўна на ўздыхвыдых. Напісанні ў тры словы — «у белым доме», «ля сіняй бухты» — гэта арфаграфія, у вымаўленні ж — па два гукавыя словы.

І нас, чытачоў і багдановічазнаўцаў, праз дзесяцігоддзі апальвае ярка схопплены ў колерах перадсмяротным позіркам паэта яго апошні прыстанак:

*У краіне* ***светлай,*** *дзе я ўміраю,*
*У* ***белым*** *доме ля* ***сіняй*** *бухты…*

Як трагічна павязаліся паўрадкоўі! Слова «светлай» кантрасна адбіваецца ў наступным «дзе я ўміраю», гукава звязаныя «ў к[РАЙ]іне» і «дзе я ўмі[РАЙ]у».

Вока звыкла выхоплівае апошнія словы ў радках, каб яшчэ раз вывераць рыфмы: бухты — Кухты. Але паўтарыце яшчэ раз паўрадкоўі, і пачуеце, што і папярэднія словы рыфмуюцца: «***сіняй бухты — Марціна Кухты***». Гэтаксама не спяшайцеся ўбачыць прыблізную рыфму першага і трэцяга радкоў — «*уміраю — маю*», бо словам «***я ўміраю***» супярэчыць сэнсава, перакрэсліваючы самую смерць, сцвярджаючы неўміручую сутнасць чалавечай творчасці, паўрадкоўе «***я кНІ****гу* ***маю***».

«Бухта» напрыканцы другога радка таксама гучыць адметна — як прыстанак, як колішняя надзея на вясну. Але якраз у маі, калі на кожным ялцінскім скрыжаванні прадаўшчыцы радыя былі за 5 капеек падаць букецік ружаў, паэт зусім абнямог. Сын у лісце мужна адкрыўся бацьку: «Стары верабей, маладому вераб'ю блага…».

Ліст, аднак, так і астанецца неадасланым. Бацька прачытае яго, калі сына пахаваюць. Тэлеграма пра смерць прыйдзе ў Сімферопаль на чацвёрты дзень: гаспадыня, у чым доме дажываў Максім, мела толькі яраслаўскі адрас. Яна і раскажа пра апошнія Максімавы дні.

За тыдзень перад смерцю пайшла горлам кроў. Папрасіў яшчэ купіць ягад (паводле бацькавых успамінаў — суніц, паводле слоў медыцынскай сястры — трускавак), узяў трохі і больш не еў.

Так і памёр 25 мая 1917 года, уночы, зусім адзін.

Адам Ягоравіч апіша гэты светлы пакой так: «ззаду дома… зусім ізаляваны, глухі: хоць крычы, хоць стукай — ніхто не пачуе (гаспадыня жыла ўнізе з падходу) і дапамогі не падасць. Сама раз, каб памерці ў поўнай адзіноце».

Можа, якраз насуперак гэтай адзіноце і прыйдзе ў верш радок «я не самотны, я кнігу маю»?.. Як важна было для творцы з шматпакутнай Беларусі — колішняй радзімы ўсходнеславянскага кнігадрукавання — мець сваю надрукаваную кнігу, кнігу на роднай мове. Вырваны ў снежні 1904 года, пад уздзеяннем рэвалюцыйных падзей у Расіі, дазвол імператара на беларускі друк цяпер, са спасылкаю на вайну з Германіяй, быў адкінуты. «Наша Ніва» перастала існаваць. Кожны пяты беларус стаў бежанцам у Расіі.

І не да творчых заяў: «Exegi monumentum», ці «Я памятник воздвиг себе…».

І як гэта па-беларуску: не ўшанаваннем сябе, а ўганараваннем іншага гучыць астатні радок: «З друкарні пана Марціна Кухты». Услухоўваешся ў яго і зноў чуеш перагукі: «з дРУКаР***ні*** па***на*** МарРці***на*** Кухты».

Беззаганнае гукавое чуццё — слова «майстэрства» тут не падыходзіць.

Зборы твораў Максіма Багдановіча з'явяцца пасля смерці паэта. Мы будзем чытаць іх і сёння, і заўтра, і пасляззаўтра.

Суцешым сябе, як звычайна рабілі ў народзе: быць можа, Максім Багдановіч лёгка адышоў на той свет. Ціха ахінула непрытомнасць, і прыйшла маці, такая, як і ў маленстве, з роднаю моваю, мовай, якую ён бегаў слухаць да сваіх цётак… Магчыма, спачатку ён хацеў адхіснуцца, бо памяць падказала: нядобра, калі кліча да сябе нябожчык. Але маці паклікала зноў. Голас ласкавы, пяшчотны, якога ён не чуў і ўсё чакаў праз усе гэтыя дваццаць гадоў… І ён, шчаслівы, падаўся насустрач ёй.

А далей — вечнасць.

**Анатоль КЛЫШКА**

# Паэтэса на сваёй хвалі

Прызнайцеся: хочацца часам кінуць усё і рвануць на мора! А што калі мора — гэта нашмат больш, чым вы пра яго ведаеце? Прыслухайцеся: мора жыве ўнутры! У гэтым упэўненая і Валерыя Радунь, аўтар кнігі вершаў «Мора ў канверце», якая выйшла ў серыі «Маладая паэзія Беларусі».

У маленькі «кішэнны» зборнік увайшлі сорак вершаў. Адны з іх напоўненыя метафарамі, якія адразу і не расшыфруеш, а іншыя, наадварот, ясныя, рэалістычныя. Паэтэса не баіцца эксперыментаваць і здзіўляць.

Метафара пра мора, вядома, не новая, але: які кранальны сэнс уклала ў яго Вікторыя Радунь! Мора ў яе ручное, палахлівае, гарэзлівае. Умее вурчаць, нібы кот, і згортвацца на каленях.

Ёсць такая паэзія, якую можна «памацаць рукамі», «панюхаць», намазаць на хлеб і паспрабаваць на смак, — справа ў ідэальнай рыфме ці ў каляксці дэталяў. Калі іх шмат, хай нават пацешных і крыху дзіцячых, — гэта заўсёды цікава, жыва, не найграна. Лепш за безаблічныя штампы ў духу «сцяжынка, блізкая з дзяцінства, і сэрцу родны закуток».

Дарэчы, матыў адушаўлёнай прыроды і рэчаў — частая з'ява ў кнізе. Вулічныя агеньчыкі горбяцца ад ветру, кватэра пазяхае зранку, пацягваючыся. Ноччу ж прыходзіць так званы «Няспаць» — рыжая істота, што нагадвае сумнага шаўца, з якім можна піць гарбату і выць на месяц.

Фантазія падказвае паэтэсе і іншыя арыгінальныя вобразы: аўтобусы цытат, аблокі, падобныя да рыбнай лускі, хмары як скура, праз якую праратсае сонца. Не, галава ад такіх смелых метафар не кружыцца — у кнізе ўсё дазавана, без празмернасцей і пафасу. Перабору з сімваламі, якімі грашаць постмадэрнісцкія творцы, капіруючы Іосіфа Бродскага, таксама няма.

Амаль усе лірычныя творы Вікторыі Радунь — без назваў. Гэта надае ім яшчэ большую загадкавасць, нейкую бязважкасць і нават далікатнасць. Думаеш: што там, за гарызонтам першага радка? Чытаеш і перачытваеш — сэнс вершаў часта раскрываецца не адразу. Трэба падумаць.

У тэкстах Вікторыі Радунь шмат нябеснага: зорак, месяца і сонца. Яна часта піша пра крылы і птушак, яе душа рвецца на волю, хоча вызваліцца ад путаў дакучлівага мінулага і застарэлай тугі. Гэты настрой даволі распаўсюджаны ў паэзіі, але аўтар афарбавала яго ў свае, вельмі асабістыя, адценні. Не скажаш, што яны непаўторныя, затое блізкія.

Пакуты творчасці таксама красамоўна апісаныя ў зборніку. Радкі «просяцца ў неба», зачыненыя ў клетцы свядомасці, словы «спачываюць пад снегам», нібы «прамоклы порах». Мяркуючы па вершах, аўтар піша ўначы. Цемра ў яе таксама жывая: не дае заснуць, б'ецца токам і хавае па кутах злавесныя цені.

Паэтка не трымаецца адзінага стылю, выкарыстоўвае розныя вершаваныя памеры. Але праз гэта творы ўспрымаюцца толькі лепш: яны не зліваюцца ў безаблічнае палатно, не паўтараюцца.

Рамантычная лінія ў зборніку не крыкліва-сентыментальная, а ўдумлівая і вельмі пяшчотная. «Солнечный луч в окне / Весны расправляет прядь /Слова созрели во мне, / Кому их теперь отдать? / И к горлу подступит ком / Но той же осталась суть: / Ты будь моим маяком, / А я отправляюсь в путь», — як быццам шэпча аўтар. І дадае: «Я не одна. Над головою — Небо».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Ужо не той...

Творчы лёс паэта Міхаіла Кулеша можна назваць тыповым. Як і многія іншыя, пачаў пісаць яшчэ школьнікам. Заканчэнне сярэдняй школы ў 1973 годзе супала з першай публікацыяй у пінскай газеце «Полесская правда», праўда, членам літаратурнага аб'яднання «Арбіта» пры ёй стаў годам раней. Паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і працягваў пісаць вершы, а пасля, як і мае быць, працаваў настаўнікам мовы і літаратуры — у Пінскім раёне, не забываючыся на родныя Палкоцічы.

І разам з тым творчы лёс М. Кулеша па-свойму адметны. Шмат хто з маладых аўтараў цягам часу з паэзіяй развітваецца. Адных ад гэтага занятку адцягваюць будні, іншыя мяркуюць, што паэзія была толькі юнацкім захапленнем. Быў пэўны творчы перапынак і ў М. Кулеша, але, дасягнуўшы сталага ўзросту, ён зразумеў, што жыць без «госці нябеснай» усё ж не можа. Піша па-руску, але адначасова заявіў пра сябе і як беларускамоўны аўтар.

Адбылося гэта дзякуючы Казіміру Камейшу. У прадмове «Самасцвярджэнне» да новай кнігі М. Кулеша «Я уже не тот» ён піша: «Мы пазнаёміліся з Міхаілам некалькі гадоў назад. Тады часопіс «Полымя» папрасіў мяне перакласці падборку ягоных вершаў. Паэзія блізкагучных моў перакладаецца вельмі цяжка. Гэта вам могуць пацвердзіць многія перакладчыкі. А тут пайшло як па маслу, быццам я перакладаю самога сябе. Вельмі ж ужо сугучныя душы былі радкі невядомага мне паэта».

Якую ацэнку творчасці М. Кулеша дае Казімір Камейша? «…Перад намі паэт са сваім, зусім не падобным да кагосьці, голасам. […] Аўтар бярэ за жывое сваёй шчырасцю, няхай — не адкрыццём, але даверлівым стаўленнем да таго, што адбываецца. Без даверлівасці, бадай, не бывае і адкрыцця. Паэт, як правіла, адкрывае невядомае ва ўжо даўно вядомым. У гэтым ён заадно шукае сваё творчае "Я".»

Ад сябе дадам, што вершы М. Кулеша — гэта споведзь душы, якая прагне даверу, шчырасці і ўзаемапаразумення. Усе вершы паэта чытаюцца ад першай асобы. «Таму прашу чытачоў не блытаць майго лірычнага героя з самім аўтарам», — зазначае ён у слове «Ад аўтара».

Лірычны герой М. Кулеша прывабны, і, не сумняюся, у некаторых чытачоў з'явіцца жаданне ягоныя ўчынкі, перажыванні, пачуцці як бы прымераць на сябе, стаць на яго месца, задумацца над тым, над чым задумваецца ён.

Таксама ў чытача можа ўзнікнуць пытанне, чаму кніга мае менавіта такую назву — «Я уже не тот»? На тое звярнуў увагу і К. Камейша — і сам жа адказаў: «Здаецца, творчаму чалавеку няма неабходнасці мяняцца ў часе, у свеце, якія б вятры не дзьмулі ў яго ветразі. Але Міхаіл Кулеш назваў сваёй кнігі гаворыць зусім аб іншым: аб сталасці самой душы, аб іншым, больш суровым разуменні самога жыцця і яго каштоўнасцей».

Сталасць душы вымагае і больш узважанага, асэнсаванага стаўлення да жыцця. Сталенне гэтае заўважнае па вершах, напісаных цягам апошніх васьмі гадоў і сабраных у раздзелы «Бег времени» і «Окна», дзе не апошнюю ролю іграе матыў душэўнай паяднанасці колішняга вяскоўца і сённяшняга гараджаніна (напрыклад, у вершы «Урбаністическое»).

У раздзеле «Белые ночи» змешчаныя самыя раннія творы. Ёсць і празаічны раздзел «Поделюсь своим горем», у які ўвайшлі тры апавяданні, напісаныя нядаўна. Сюжэты іх узятыя наўпрост з жыцця, што сведчыць пра назіральнасць М. Кулеша, яго ўменне выхопліваць з паўсядзённасці акурат тое, што можа стаць асновай мастацкага твора.

Кніга «Я уже не тот» — для тых, хто шукае ў лірычным героі чалавека блізкага сабе па думках і ўчынках.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Да 70-годдзя Вялікай Перамогі

# Летапісцы векапомных дзён

**Значэнне дзённікавых запісаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны цяжка пераацаніць. Яны складаюць асобны жанр. Для чалавека, які ўмомант мог загінуць ад варожай кулі ці асколка снарада, радкі, напісаныя алоўкам у блакноце, станавіліся пропускам у неўміручасць. Тут ён быў гранічна шчырым.**


Мікола Лобан.

> *Асабістыя дзённікі, запісы, малюнкі былі забароненыя. Творчыя людзі ў большасці выпадкаў рызыкавалі — дзеля фіксацыі дакладных фактаў і дэталяў, каб не страціць вастрыню ўяўлення і пачуццяў.*

## БЯСЦЭННЫЯ СВЕДЧАННІ

Самае каштоўнае ў ваенных дзённіках, што надае ім асаблівае гучанне, — гэта адлюстраванне вайны ў чалавечым вымярэнні, дапоўненай унікальнымі падрабязнасцямі і дэталямі, не зафіксаванымі ў афіцыйных дакументах. Запісы чалавека творчага і высокадухоўнага, здольнага да аналізу, набываюць пэўную мастацкую каштоўнасць.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца значная колькасць дзённікаў, запісных кніжак і дзённікавых запісаў, якія належаць беларускім пісьменнікам. Дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка адзначае: «Мастак-франтавік П. М. Герасімовіч на адной з сустрэч у пачатку 1980-х успамінаў пра цяжкасці творчага чалавека на фронце. Акрамя ўсяго не пакідала прага творчасці, але ў ваенных умовах асабістыя дзённікі, запісы, як і малюнкі, былі забароненыя. Творчыя людзі ў большасці выпадкаў рызыкавалі — дзеля фіксацыі дакладных фактаў і дэталяў, каб не страціць вастрыню ўяўленняў і пачуццяў. Гэта значыць, што мы маем справу з вельмі рэдкімі дакументамі перыяду Вялікай Айчыннай вайны».

Дзённікі і запісныя кніжкі, якія зберагае БДАМЛМ, не раўназначныя па памерах, храналагічным ахопе, напоўненасці фактамі. Але ўсе яны паказваюць чалавека на вайне, даюць уяўленне пра яе асобныя эпізоды. Да самых разгорнутых адносяцца дзённікі пісьменнікаў М. П. Лобана, В. С. Гарбука, А. А. Алешкі, П. І. Валкадаева. Выключнасць кожнага тэксту ў тым, што яны адлюстроўваюць падзеі розных ваенных кірункаў.

## «НА КАГО ВЫ НАС ПАКІДАЕЦЕ?..»

Мікалай Паўлавіч Лобан (1911 — 1984) ваяваў на Волхаўскім фронце, быў двойчы паранены, апошні раз — цяжка, калі яму адзінаму з усяго вагона санітарнага цягніка, які разбамбілі фашысцкія самалёты, удалося выбрацца з-пад груды жалеза і ламачча. Запісы яго дзённіка пачынаюцца 22 чэрвеня 1941 у Мінску, калі яму, студэнту БДУ, давялося пехатой прайсці па маршруце Рудзенск — Магілёў — Клімавічы — Рослаўль — Арол — Ліпецк, а потым на цягніку ехаць на Волхаўскі фронт. Запісы Лобана вызначаюцца лаканічнасцю, дынамізмам, вастрынёй апісання, адкрытасцю. Тут і горыч адступлення, і пралікі камандавання, і недахоп зброі, і бессэнсоўная гібель салдат. Назаўсёды ўрэзаліся ў памяць будучага пісьменніка пакутлівыя вочы маўклівай беларускай жанчыны, якая пачаставала яго акрайцам хлеба з малаком. Лобан успамінае: «У Людзінаве праходзілі каля нейкага магутнага завода, які яшчэ працаваў ва ўсю. На вуліцы чуваць быў грукат яго рухавікоў. Каля самага завода нас перанялі жанчыны, расставіўшы рукі, яны крычалі: «Куды вы, мужчыны, на каго вы нас пакідаеце?! Мы не пусцім!»

Цяжка было бачыць і чуць гэта. Каб маглі, мы б сталі жалезнымі волатамі на шляху фашысцкай арміі. Угнуўшы галовы ад сораму, мы моўчкі праходзілі паміж тых рук». (БДАЛМ, ф. 148, в. 2, с. 105).

Многія эпізоды дзённіка пасля сталі сюжэтамі твораў Міколы Лобана.

## «ВАР'ЯЦКІ КАШМАР!»

Дзённік В. С. Гарбука (1913 — 1986) адлюстроўвае франтавыя падзеі 1941 — 1945 гадоў. Вісарыён Сцяпанавіч быў


Вісарыён Гарбук.

прызваны ў Чырвоную Армію ў ліпені 1941 года, дзе ў інжынерных войсках асвоіў новыя прафесіі: быў тапографам, рэкагнасцыроўшчыкам, будаўніком. Узвядзенне абарончых рубяжоў на Доне, у Калінінскай вобласці, у роднай Беларусі, пад Арлом, на Віслe і Одэры, будаўніцтва траншэй, дотаў, камандных пунктаў, мастоў і пераправаў было яго паўсядзённай ваеннай працай. Дзень Перамогі Вісарыён Сцяпанавіч сустрэў у Берліне і з гонарам паставіў аўтограф на сценах рэйхстага. Потым была праца па ўзвядзенні помнікаў і абеліскаў загінуўшым савецкім воінам на тэрыторыі Польшчы і Германіі.

Дзённік Вісарыён Сцяпанавіч вёў на працягу ўсёй вайны і да апошніх дзён жыцця. Запісы вельмі эмацыянальныя, асобныя эпізоды напісаныя на высокім мастацкім узроўні:

«8 красавіка 1942 года.

Вясна.

Цяжка на душы. І цяжка не толькі за асабісты лёс. Гары ён гарам! Цяжка, што маўчаць Раланы, Цвейгі канчаюць жыццё самагубствам, Эйнштэйны робяцца выгнаннікамі, разбураюцца сядзібы Талстых. Цяжка за тое, што мільёны кінуты ў гіганцкую мясарэзку, пазбаўлены жыцця, чалавечага аблічча, цяжка, што простае права спакойна жыць і працаваць трэба абараняць з аўтаматам і бомбамі. Вар'яцкі кашмар!

Ты ўсведамляеш непазбежнасць бязлітаснай барацьбы з фашызмам. Або жыць, або быць рабом. Такое пытанне гісторыя ставіць перад кожным.

Вясна.

Калі ж грымне апошні стрэл?

Гэты дзень трэба заваяваць мільярдамі баявых стрэлаў, мільёнамі смерцяў, распаліўшы да апошняй мяжы нянавісць да ворага.

Толькі тады за гарамі гора народзіцца новы свет.

Вясна…» (БДАМЛМ, ф. 234, в. 2, с.44).

## СА СЛЯДАМІ І БЕЗ

Антон Антонавіч Алешка (1913 — 1971), медык і пісьменнік, прайшоў усю Вялікую Айчынную, ад першага да апошняга яе дня. Сотні, тысячы воінаў атрымалі дапамогу ад франтавога ўрача Алешкі, многім з іх ён выратаваў жыццё. Баявыя сябры-лётчыкі, з якімі ён пераадолеў незлічоную колькасць ваенных дарог, з якімі перажыў горыч адступлення і радасць перамог, сталі потым героямі твораў пісьменніка, у тым ліку рамана, прысвечанага лётчыкам-знішчальнікам «Дарогі без слядоў». Запісы яго дзённіка пачынаюцца ў 1942 годзе і вядуцца да самага канца вайны. Акрамя ўсяго, дзённік ілюстраваны яго ўласнымі малюнкамі (ф.208, воп.1, спр.61).

Асобна трэба азначыць партызанскі дзённік П. І. Валкадаева (1911 — 1973) пад назвай «Запіскі партызана» (ф. 74, в. 1, с. 281). Са снежня 1939 і да пачатку вайны Пётр Іванавіч быў інструктарам-літаратарам вайсковай газеты «Новый путь». Пасля кантузіі ў першыя дні вайны і крупознага запалення лёгкіх яго лячыла і даглядала беларуская сялянка з Магілёўшчыны Ульяна. З красавіка 1942 і па чэрвень 1943 года Валкадаеў быў сувязным партызанскага атрада № 22 на тэрыторыі Магілёўскай вобласці, а потым — партызанам таго ж атрада. Яго дзённік адрознівае высокая ступень дэталізацыі падзей, шматнаселенасць рэальнымі асобамі, падрабязнае апісанне ваеннага быту партызан і насельніцтва.

> *«Цяжка на душы. І цяжка не толькі за асабісты лёс. Гары ён гарам! Цяжка, што маўчаць Раланы, Цвейгі канчаюць жыццё самагубствам, Эйнштэйны робяцца выгнаннікамі, разбураюцца сядзібы Талстых. Цяжка за тое, што мільёны кінуты ў гіганцкую мясарэзку, пазбаўлены жыцця, чалавечага аблічча, цяжка, што простае права спакойна жыць і працаваць трэба абараняць з аўтаматам і бомбамі. Вар'яцкі кашмар!»*

## НАТАТКА — ДЗЁННІК

Трэба мець на ўвазе адрозненне ваенных дзённікаў ад запісных кніжак. Расійская даследчыца А. Калеснікава ў сваім дакладзе «Ваенныя дзённікі і занатоўкі пісьменнікаў: жанрава-апавядальныя асаблівасці» на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Testes temporum. Дневники и воспоминания в русской литературе XX века» (28 — 29 кастрычніка 2013 года, Санкт-Пецярбург) адзначыла: «Даследчыкі не выпрацавалі адзінага падыходу да выразнага раздзялення дзённікаў і запісных кніжак. Некаторыя гатовыя іх аб'яднаць. Падставы для гэтага ёсць — і той, і іншы


Антон Алешка.

> *Не існуе выразнага раздзялення дзённікаў і запісных кніжак. Некаторыя даследчыкі гатовыя іх аб'яднаць: і той, і іншы тэкст могуць быць «занатоўкамі» для будучых твораў. Аднак калі запісныя кніжкі — рабочыя нататкі толькі для сябе, то дзённікі можна разглядаць і як мастацкія творы, якія мелі на ўвазе чытача. Другое адрозненне — дзённікі маюць дыскрэтную структуру аповеду, падзеленую датамі.*

тэкст могуць быць «занатоўкамі» для будучых твораў. Аднак калі запісныя кніжкі — гэта менавіта рабочыя запісы толькі для сябе, то дзённікі можна разглядаць і як мастацкія творы, якія мелі на ўвазе чытача. Нездарма дзённікі часта друкуюцца з назвамі. Другая апавядальная розніца паміж дзённікамі і запіснымі кніжкамі — дзённікі маюць дыскрэтную структуру аповеду, падзеленую датамі, якія з'яўляюцца галоўнай метатэкставай прыкметай. Г. зн. дата каментуе тое, што здарылася ў гэты дзень. Тэматычна і стылістычна запісы могуць адрознівацца.

Запісныя кніжкі дат могуць не мець, могуць рабіцца ў розны час з захаваннем тэматычнага адзінства матэрыялу.

У пісьменнікаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны жанравае адрозненне дзённікаў ад запісных кніжак яшчэ больш размытае. У многім гэта адбылося праз тое, што ў самым пачатку вайны вядзенне дзённікаў было забароненае. Трэба заўважыць, што ў германскай арміі, наадварот, падобная творчасць не толькі не забаранялася, але і заахвочвалася. Дазвалялася таксама падрабязнае апісанне сваіх будняў у пісьмах (каштоўны матэрыял пра будні вайны нясуць лісты нямецкіх салдат і афіцэраў, што трапілі ў рукі савецкай арміі).

Выключнае права на вядзенне чарнавых запісаў у Чырвонай Арміі было прадастаўлена ваенным карэспандэнтам. Яны гэтым часта карысталіся, рабілі рэгулярныя запісы, якія не заўсёды абмяжоўваліся рамкамі будучых газетных публікацый» (Пер. мой. — **А. В.**).

Так, да запісных кніжак мы можам аднесці запісы Міхася Лынькова — рэдактара франтавой газеты "За Савецкую Беларусь" і А. Жаўрука (А. Д. Сінічкіна) — ваеннага карэспандэнта, які загінуў пад Сталінградам, блакнот франтавога карэспандэнта Г. М. Шчарбатава.

Разам з супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва мы падрыхтавалі да друку кнігу ваенных дзённікаў А. Алешкі, П. Валкадаева, В. Гарбука і М. Лобана. Чакаем прапаноў ад выдаўцоў.

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

# Манументальнасць… у газеце

**Да літаратурна-мастацкай перыёдыкі чытачы звычайна ставяцца як да крыніцы звестак пра выхад новых кніг, з’яўленне тэатральных пастановак ці арганізацыю выставак. Нехта больш любіць чытаць інтэрв’ю з творцамі, нехта аддае перавагу кароткім празаічным тэкстам ці вершаваным падборкам, што друкуюцца на старонках выданняў. А калі зірнуць на перыёдыку ў больш глабальным маштабе, прааналізаваць выпускі газеты ці часопіса не за тыдзень, месяц ці нават год, а за некалькі дзесяцігоддзяў? Менавіта такі аналіз газеты «Літаратура і мастацтва» калісьці правяла кандыдат мастацтвазнаўства Дар’я Іваноўская. У цэнтры ўвагі даследчыцы апынуліся выпускі «ЛіМа» 1960 — 1990-х гадоў. Яна звяртала ўвагу на матэрыялы, прысвечаныя розным відам мастацтва, чытала тэксты, нават вымярала іх плошчу, акцэнтуючы асобную ўвагу на прадстаўленні манументальнага мастацтва Беларусі. Сёння сваімі высновамі Дар’я Аляксандраўна гатовая падзяліцца з чытачамі штотыднёвіка.**



**— Дар’я Аляксандраўна, не так даўно ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет ваша манаграфія «Манументальны жывапіс беларускіх мастакоў другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя». Даследаванні ЛіМа, якія вы праводзілі колькі гадоў таму, дапамаглі ў яе напісанні?**

— Так, вельмі дапамаглі. Можна сказаць, што я глабальна вывучыла «ЛіМ». Некалькі гадоў увесь вольны час праводзіла ў бібліятэцы, чытала выпускі газеты за 1960 — 1990-я гады, рабіла ксеракопіі і выпіскі. З вялікай любоўю і ўдзячнасцю ўспрымаю гэтае выданне, бо там усё зафіксавана.

*Першаснай крыніцай для правядзення аналізу ўвагі СМІ да мастацтва ў Беларусі Дар’я Іваноўская абрала газету «Літаратура і мастацтва» па некалькіх прычынах. «ЛіМ» быў адзіным выданнем, што выходзіла цягам усяго абранага для вывучэння перыяду (1960 — 1990-я гады). Перыядычнасць выхаду — два разы на тыдзень, 140 нумароў на год. У сярэднім у кожным выпуску друкавалася 30 артыкулаў. Такім чынам, выбарка тэкстаў для даследавання — 160 тысяч.*

Калі параўнаць з іншымі перыёдыкамі, якія выходзілі ў нашай краіне ў той час, то бачна, што якасць прадстаўлення мастацкага і літаратурнага працэсу Беларусі менавіта ў «ЛіМе» была надзвычай высокай.

Я шукала звесткі па развіцці манументальнага мастацтва ў розных крыніцах, звярталася і ў мастацкі камбінат. Але менавіта ў «ЛіМе» інфармацыя пра творы мастацтва была найбольш поўнай. Што тычыцца іншых крыніц, то звесткі там абрывістыя, фрагментарныя, часта абарваныя па часе або зусім няпоўныя. Да прыкладу, ёсць выява вітража, але не пазначаецца яго аўтар. Больш за тое, калі я чытала «ЛіМ», то адчувала псіхалагічны камфорт, мне было прыемна і цікава знаёміцца з выпускамі газеты.

**— Чаму для аналізу развіцця манументальнага мастацтва краіны вы абралі менавіта гэты перыяд — 1960 —1990-я гады?**

— Па адукацыі я мастак-манументаліст, і калі прыйшла на працу ў Акадэмію навук, то мне прапанавалі вывучаць менавіта гэты кірунак. Справа ў тым, што развіццё беларускай школы манументальнага жывапісу пасля 1980-х гадоў не даследавалася, але каб прасачыць больш агульныя тэндэнцыі ў гэтым кірунку мастацтва, заўважыць дынаміку, мне патрэбна было разгледзець шырэйшы перыяд — з 1960-х. Гэта надзвычай цікава, бо ў дынаміцы руху манументальнага мастацтва за вельмі кароткі прамежак часу бачна, як савецкі перыяд пераходзіць у рамантыку, пошук, драматычнасць, потым мастакі пачынаюць працаваць над пабудовай цэркваў, зноў выконваюць дзяржаўныя заказы, з’яўляюцца і заказчыкі — прыватныя асобы.

**— Як атрымалася, што менавіта «ЛіМ» стаў крыніцай звестак пра мастацтва Беларусі ў 1960 — 1990-я гады?**

— Мне хацелася зрабіць мастацтвазнаўчы агляд перыядычнага выдання ў пэўны адрэзак часу. І «ЛіМ» быў адзінай газетай, якая выходзіла ўвесь гэты час. Я знаёмілася і з іншымі перыёдыкамі, брала інтэрв’ю ў мастакоў, але мне падалося, што менавіта «ЛіМ» шырока асвятляе ўсе віды мастацтва. Гэта не вузкаспецыялізаваная газета, якая звяртае ўвагу толькі на тэатральнае ці візуальнае мастацтва. Мне яна вельмі спадабалася, бо заўважалася развіццё, актыўнае адлюстраванне падзей, нібыта ты зноў апынаешся ў тым часе. Больш за тое, сама падача матэрыялу адлюстроўвала час. Натуральна, «ЛіМ» быў не адзінай кропкай апоры ў даследаванні, але іншыя крыніцы не супярэчылі маім высновам і пацвярджалі тэндэнцыі, якія выяўляліся дзякуючы газеце.

**— Як пісалі пра літаратуру і мастацтва ў той час?**

— Адчувалася, што выданне рабілі з любоўю. Магчыма, крытэрый не вельмі навуковы, але гэта адразу кідаецца ў вочы. У цэлым, «ЛіМ» адлюстроўваў становішча, што існавала ў краіне. Прафесіянальная падрыхтоўка манументалістаў у нашай краіне пачалася ў 1960-я гады. У гэты час актыўна развівалася мастацтва, і расповед пра яго станавіўся ўсё больш прафесійным.

Магчыма, гэта звязана з тым, што спачатку ў мастацтве і журналістыцы працавала пасляваеннае пакаленне творцаў, якія не мелі магчымасці вучыцца. Потым эканамічнае становішча змянілася, у гэтых сферах пачалі працаваць спецыялісты, якія скончылі ВНУ. Нават калі разглядаць само мастацтва, то можна заўважыць яго развіццё ад простасці да глыбіні. Прынамсі, рабіліся спробы даследаваць унутраны свет чалавека.

**— Ці падабалася вам асабіста чытаць газету?**

— Так, і чым далей — тым больш. Спачатку ў «ЛіМе» пісалі пра самадзейнасць, фатаграфавалі калектывы, каб чытачы культурна бавілі вольны час. Я нават крыху здзіўляюся, наколькі высокім быў навуковы ўзровень мастацтвазнаўчых артыкулаў у газеце. Ведаю, што навукоўцам важна друкавацца ў выданнях са спіса рэкамендаваных ВАК, і калі сама нешта пішу, то публікуюся ў асноўным у спецыялізаваных навуковых выданнях і зборніках. Але калі даследавала «ЛіМ», то заўважыла, што на яго старонках нашы класікі-мастацтвазнаўцы пісалі шчыра, з любоўю да сваёй справы і ў той жа час вельмі прафесійна. Бачна, калі справа робіцца не за грошы і не дзеля справаздачы.

*У сваіх даследаваннях Дар’я Іваноўская адзначае, што цягам абранага для вывучэння перыяду прыярытэтнай тэмай была літаратура (доля тэкстаў пра новыя кнігі і творчасць асобных аўтараў на старонках «ЛіМ» — ад 22 працэнтаў у 1960 годзе да 28 — у 1990-м), у той час як танцы, кабарэ, мюзіклы і шоу выклікалі найменшую зацікаўленасць.*

**— У адным са сваіх артыкулаў вы адзначаеце, што найбольш увагі на старонках «ЛіМа» аддавалася менавіта літаратуры, а не мастацтву. Як лічыце, чым гэта можна патлумачыць?**

— Я не займалася выяўленнем навуковых прычын гэтай з’явы. Але мяркую, што менавіта літаратура трапляла ў шырокі спектр зацікаўленасці чытача. У той час яшчэ было мала тэлевізараў, інфармацыйная прастора была вузкай. Людзі чыталі кнігі, сачылі за літаратурнымі навінкамі. Не так шмат праводзілася мастацкіх выставак, не так шмат з’яўлялася твораў манументальнага жывапісу. Нават калі фатограф рабіў здымкі мастацкіх работ, то чытачы не маглі кожны дзень іх разглядаць, аналізаваць. Ім важна ведаць, што яны проста існуюць. З кнігамі ж выбудоўваліся іншыя адносіны. Іх набывалі, чыталі, абмяркоўвалі. Таму важна было своечасова паведаміць пра выхад новага твора.

**— Вы аналізавалі адметнасці адлюстравання мастацтва ў СМІ Беларусі, Еўропы і ЗША. Што агульнае і адрознае заўважаецца ў гэтым кірунку?**

— Па розных паказальніках, увага беларускіх СМІ да з’яў культуры і мастацтва вышэйшая, чым у Еўропе і Штатах. Мне падаецца, што калі бліжэй пазнаёміліся з заходняй культурай, то стала бачнай розніца. На Захадзе зацікаўленасць прафесійным мастацтвам першапачаткова была меншай. Калі я праводзіла гэтае даследаванне, не было такой колькасці інфармацыі пра культуру Захаду, было менш крыніц, адкуль гэтыя звесткі можна было атрымаць. У нашай краіне тэксты пра розныя віды мастацтва пісалі прафесіяналы, яны звярталіся да класікі і работ прафесійных творцаў, тым самым імкнуліся павысіць культурны ўзровень чытачоў.

А зараз мы сутыкаемся з вялікай колькасцю інфармацыйнага смецця — у інтэрнэце, сацыяльных сетках. Мы шмат кажам пра акцыі, хутчэй правакацыйныя, выпадковыя, маладзёвыя, чым высокамастацкія. Прэса не ставіць на мэце павышэнне густу і культуры чытачоў. На Захадзе гэтыя працэсы пачаліся раней, а тут патрэбна было трымаць планку выдання на высокім узроўні, аўтары адчувалі адказнасць за сваё слова. Зараз адказнасці няма, кожны можа казаць і пісаць што заўгодна.

**— Ці можна назваць нейкі перыёдык, па ўзроўні ўплыву на чытача параўнальны з «ЛіМам»?**

*З цягам часу назіраецца зніжэнне ўвагі аўтараў «ЛіМа» да самадзейнасці, расце колькасць артыкулаў пра культуру, напісаных мастацтвазнаўцамі, а не журналістамі і навуковымі работнікамі. Узмацняецца акцэнт на эстэтычным развіцці маладога пакалення, з’яўляюцца сур’ёзныя, глыбокія даследаванні і артыкулы пра культуру.*

— На жаль, у нашай краіне не так многа спецыялізаваных выданняў па мастацтве. І, па вялікім рахунку, я нават не прыгадаю вельмі грунтоўнага, так бы мовіць, універсальна-мастацкага выдання такога ж узроўню. Выданне «ЛіМа» за перыяд, які даследавала, ні разу не перапынялася, газета разлічаная на шырокае кола чытачоў і ў той жа час цікавая людзям, якія займаюцца навукай. Яшчэ магу назваць штогадовыя зборнікі, што выдаюцца Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, але справа ў тым, што і аўтарамі, і чытачамі гэтага выдання з’яўляюцца пераважна навукоўцы.

Шкада, што сёння губляецца навык падпісвацца і чытаць нейкую адну газету ці часопіс, усе атрымліваюць навіны з інтэрнэту і сацыяльных сетак, дзе разам з карыснай інфармацыяй шмат лухты. Гэта як бясконцая дыскатэка, дзе цябе акружае мноства шуму, знаёмых і незнаёмых людзей.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Унікальны праект*

# Шамякін. Назаўсёды




**«Мастацкая літаратура» завяршыла выданне Збору твораў Івана Шамякіна, праца над якім была распачатая ў 2010 годзе па замове і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Апошні, дваццаць трэці, том праекта, у які ўвайшла публіцыстычная спадчына і эпісталярый пісьменніка, пабачыў свет у 2015 годзе. Выданне падрыхтаваў калектыў супрацоўнікаў Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнаяй акадэміі навук Беларусі пры супрацоўніцтве з кафедрай беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і кафедрай беларускай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Збор твораў па сваёй напоўненасці не мае, бадай, роўных ва ўсёй літаратурнай навуцы па пытаннях творчасці Івана Шамякіна.**

У дваццацітрохтомны збор твораў увайшлі амаль усе вядомыя на сёння празаічныя, драматургічныя і дакументальна-мастацкія творы Івана Шамякіна. Многія з іх публікаваліся раней, уваходзілі ў папярэднія зборы твораў пісьменніка. Але новае выданне змяшчае і шмат новага матэрыялу. Так, у першыя два тамы збору твораў Івана Шамякіна ўвайшлі апавяданні другой паловы 1940-х гадоў, якія раней не публікаваліся ці былі апублікаваны не ў поўным варыянце.

У свой час не было надрукавана апавяданне «Выпрабаванне пачуццяў» (напісана аўтарам у 1945 г. і мела толькі часопісны варыянт публікацыі ў 2006 г., ужо пасля смерці пісьменніка). Не дайшлі да чытачоў у свой час і такія творы, як «Бацька», «Браты», «Міжнароднае права» (усе — 1946 г.), «Чалавек з «Бізоніі» (1947) ды іншыя. Многія з апавяданняў не перавыдаваліся, а большасць з іх не згадвалася ў сур'ёзных літаратуразнаўчых працах.

Сёння чытачы могуць у поўным аб'ёме ацаніць маштаб літаратурнай спадчыны пісьменніка, па-новаму прачытаць творы больш як шасцідзесяцігадовай даўнасці. Спрэчкі ўжо адшумелі, але гэтыя тэксты ажыўляюць памяць пра раней перажытае і перадуманае аўтарам. Згаданыя творы сталі неад'емнай часткай развіцця літаратуры на працягу апошніх шасцідзесяці гадоў, аказалі значны ўплыў на развіццё ўсяго беларускага пісьменства.

У дваццацітрохтомнае выданне ўпершыню ўключаны і ўсе дакументальна-мастацкія творы пісьменніка: «Роздум на апошнім перагоне», «Начныя ўспаміны», «Слаўся, Марыя!», «Промні маленства», а таксама дзённікавыя запісы. Мемуарна-дакументальная спадчына Івана Шамякіна стала лагічным працягам папярэдняй творчасці пісьменніка і мае не меншае значэнне, чым яго празаічныя творы. Доўгі час у беларускай літаратуры суб'ектыўны погляд на падзеі лічыўся не зусім вартым увагі, бо звязваўся з апісальніцтвам. Івану Шамякіну ўдалося пераадолець такі падыход і пачаць ствараць вобразы на аснове прыватных фактаў або падзей. У згаданых творах аўтарам кіравала неадольнае жаданне, можна сказаць, прага распавесці пра сябе, сваё пакаленне, равеснікаў і сяброў, блізкіх і родных, увогуле пра тое, што ў думках і пачуццях пісьменніка назапашвалася і збіралася не адно дзесяцігоддзе.

Упершыню ў збор твораў уключаны цэлы том пісьменніцкай публіцыстыкі. З першай паловы 1950-х гадоў Іван Шамякін актыўна працаваў не толькі ў жанры прозы, але і ў публіцыстычны: пісаў дакументальныя нарысы, эсэ, партрэтныя замалёўкі, літаратуразнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі, літаратурныя мемуары і іншыя. Гэта была вялікая творчая праца І. Шамякіна, якую сёння ў шырокім сэнсе можна назваць пісьменніцкім мастацка-публіцыстычным летапісам і якая мела шмат агульнага з прозай аўтара.

Публіцыстычныя нарысы часта адкрывалі шлях у літаратуру творам буйных жанраў — аповесці, раману, драме, рабіліся нагодай для глыбейшага ідэйна-мастацкага абагульнення. Многія «буйнафарматныя» творы Івана Шамякіна выраслі з нарысаў або вельмі нагадвалі гэты жанр. Тут узгадваецца адзін з самых «публіцыстычных» раманаў Івана Шамякіна — «Крыніцы». Сёння публіцыстыка І. Шамякіна каштоўная як выяўленне жыццёвага шляху цэлага літаратурнага пакалення. Гэты шлях быў багаты на ўсё: радасці, творчыя ўзлёты, літаратурныя адкрыцці і горкія расчараванні, цяжкасці і жыццёвыя драмы, гора асабістае і ўсенароднае. Пісьменніка цікавіў наваколны свет у сэнсе выяўлення духоўнай значнасці і велічы жыцця.

У апошні, дваццаць трэці, том збору твораў Івана Шамякіна ўвайшла і яго эпісталярная спадчына, якая таксама мае выразны публіцыстычны характар. У перапісцы пісьменніка выказваліся і абмяркоўваліся актуальныя праблемы развіцця беларускага грамадства. Апублікаваны эпісталярый дапамагае ўзнавіць падзеі літаратурнага і грамадскага жыцця, творчую атмасферу, у якой жыў і працаваў пісьменнік.

Акрамя таго, перапіска багатая на звесткі пра творчыя інтарэсы аўтара, кола яго сувязей і ўзаемаадносін, сямейны побыт, грамадскую дзейнасць. Лісты І. Шамякіна беражліва захаваныя яго сям'ёй і перададзеныя для апублікавання ў дваццацітрохтоміку, з'яўляюцца на сёння адным з вычарпальных аповедаў пра жыццё пісьменніка, абставіны напісання і публікацыі яго шматлікіх твораў, своеасаблівай «творчай лабараторыяй» Івана Шамякіна.

На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адбылася ўрачыстая прэзентацыя новага выдання. У ёй прынялі ўдзел даследчыкі творчасці Івана Шамякіна, супрацоўнікі аддзела тэксталогіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія рыхтавалі тэксты твораў і навуковыя каментарыі да іх, аўтары навуковых пасляслоўяў, прадстаўнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура», а таксама студэнты і выкладчыкі філалагічнага факультэта. На прэзентацыі выступілі член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі, загадчык кафедры тэорыі літаратуры, доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша, загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры, доктар філалагічных навук Таццяна Шамякіна, а таксама іншыя навукоўцы і члены сям'і пісьменніка.

Адзначана высокая навуковая каштоўнасць падрыхтаванага выдання, бо менавіта з яго можна цяпер даведацца пра многія загадкі літаратурнай творчасці аўтара: як пісаліся творы, колькі і якія варыянты яны мелі, як выходзілі ў друк, як змяняўся сам мастак, як на творчую працу ўплывалі новыя погляды і перакананні, прафесійны вопыт і сталасць. Новае выданне паспрыяе паўнавартаснаму вывучэнню творчасці Івана Шамякіна ў сярэдняй і вышэйшай нацыянальнай школе.

Збор твораў Івана Шамякіна ў дваццаці трох тамах падагульніў цэлы этап у творча-навуковым асэнсаванні мастацкай спадчыны пісьменніка, і ў гэтым падагульненні ёсць працяг, бо ўзровень гісторыі нацыянальнай літаратуры будзе залежаць і ад такіх выданняў, якія ў поўным аб'ёме перадаюць творчыя набыткі беларускай літаратуры. Усе памкненні сапраўднага пісьменніка скіраваны ў дзень заўтрашні, дзеля якога і працуе сапраўдны творца і гуманіст. Пра гэта выдатна сказаў сам Іван Шамякін: «Хочацца быць! Быць заўсёды. Разумееш, што фізічна гэта немагчыма, і імкнешся быць у справах сваіх, у памяці блізкіх, нашчадкаў. Шчаслівы той, хто застаецца ў памяці народнай. Мы, пісьменнікі, шчаслівыя…»

**Таццяна БЕЛЬСКАЯ**

# Застаецца памяць пра паэта

*Каля мяне спыніся,*
*мой чытач,*
*І весела ўсміхніся,*
*не заплач.*
*Нябожчык пры жыцці*
*вясёлым быў*
*І сумаваць ніколі не любіў.*

Менавіта такія словы, эпітафія самому сабе, напісаны на помніку паэту-сатырыку Міколу Вяршыніну. Дзіця вайны, ён прывык не рабіць клопатаў нікому. Помнік усталёўлены ягонай жонкай Нінай Тарасаўнай, якая душа ў душу пражыла з Мікалаем Пятровічам не адно дзесяцігоддзе. Гэта помнік не толькі мужу, але і паэту.

Не сакрэт, што творчасць прыцягальная як магчымасць працягу хуткаплыннага жыцця. З дапамогай сяброў-творцаў і сяброў-фундатараў у 2010 годзе пабачыў свет зборнік «Вочы ў вочы», які паэт рыхтаваў да ўласнага 70-годдзя. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў кнігу «Беларускія байкі» (серыя «Школьная бібліятэка»), выдадзеную ў 2011 годзе, уключыла асобным раздзелам і творы Вяршыніна. У школе аграгарадка Ляды Чэрвеньскага раёна створана музейная экспазіцыя М. Вяршыніна, і там штогод праводзяцца літаратурныя імпрэзы, прымеркаваныя да яго дня нараджэння, 20 мая. Даводзілася асабіста чуць музычныя мініяцюры па вершах Вяршыніна ў выкананні студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі…

Сябры Вяршыніна і сёння не прамінаюць гасцінную кватэру Мікалая Пятровіча, дзе іх ветліва сустрэне Ніна Тарасаўна, пацікавіцца жыццём-быццём. Жонка паэта — гэта таксама званне.

**Юрась НЕРАТОК**

*За падзеяй*

# Калейдаскоп юных творцаў

**Вынікі літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп» сярод студэнтаў усіх факультэтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта падвялі ў Расійскім цэнтры навукі і культуры. Мерапрыемства прысвечана Дню яднання народаў Беларусі і Расіі, 70-годдзю Вялікай Перамогі і Году моладзі.**

Конкурс праводзіцца ўжо трэці год. Яго заснавальнікі — Фундаментальная бібліятэка БДУ, Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, культурна-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Наша Русь» і Саюз жанчын БДУ. Творчае спаборніцтва працягвалася больш як два месяцы. У ім узялі ўдзел 48 юных паэтаў, празаікаў і публіцыстаў, якія прадставілі 68 твораў. Самымі актыўнымі былі студэнты філфака, Інстытута журналістыкі і факультэта міжнародных зносін.

Журы ўзначальваў старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Яму дапамагалі кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры філфака БДУ Ганна Мятліцкая, а таксама старшы выкладчык кафедры тэлебачання і радыёвяшчання Інстытута журналістыкі Алеся Кузьмінова.

Лаўрэатамі ў намінацыі «Захоўваем у сэрцах Вялікую Перамогу» сталі Кацярына Роўда (філалагічны факультэт), Фаіна Наканечная (Інстытут журналістыкі), Марыя Дуднік (філфак), Ігар Пятровіч (гістарычны факультэт), Дзмітрый Корзунаў (факультэт філасофіі і сацыяльных навук). Лаўрэатамі ў намінацыі «Студэнцтва найцудоўнешая пара» журы прызнала Кацярыну Роўду і Аліну Карпіцкую (філалагічны факультэт). У намінацыі «Каханне з'явіцца знянацку» лаўрэатамі конкурсу названы Кацярына Роўда і Анастасія Семянько (філфак), Фаіна Наканечная і Дзмітрый Корзунаў.

У намінацыі філасофскай лірыкі «Ва ўсім мне хочацца да сутнасці дайсці» лаўрэатамі конкурсу сталі Анастасія Каротчыкава і Валерыя Ісаковіч (факультэт міжнародных зносін), а таксама Таццяна Цішкевіч (біялагічны факультэт).

Абсалютным пераможцам конкурсу ва ўсіх чатырох намінацыях прызнана студэнтка фізічнага факультэта Таццяна Купрыянец. Усім лаўрэатам уручаны дыпломы і памятныя падарункі ад арганізатараў.

*Павел КУЗЬМІЧ*

# Навінкі кнігавыдання

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Як Зайчык і Вавёрка лічыць вучыліся:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2921-3.

**Як Заяц Варону выратаваў:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2926-8.

**Як звяры поліўку варылі:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2925-1.

**Як Іванка-прастачок дзяцей глядзеў:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2936-7.

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Герасименко, С. С.** Потайная дверь: сказки, стихи и раскраски: [для детей] / Светлана Герасименко. — Минск: Ковчег, 2014. — 69 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7055-66-1.

**Дубновицкий, С. М.** Любознательному другу: загадки для детей / Сергей Дубновицкий; [художник Г. А. Жорж]. — Брест: Альтернатива, 2014. — 51 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-521-440-4.



***Янсан, Т. Небяспечнае лета: [казачная аповесць: для малодшага школьнага узросту] / Тувэ Янсан; пераклад з шведскай [Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 138 с. — 1000 экз. (1-шы з-д 500). — ISBN 978-985-6992-44-8 (у пер.).***

*Гэта ўжо чацвёртая кніга знакамітай серыі пра мумітроляў, якая выйшла ў перакладзе на беларускую мову. Прыгоды мумісям'і працягваюцца, яны становяцца ўсё больш і больш небяспечнымі. На гэты раз мумітролі застаюцца без даху над галавой, бо агнядышная гара, якая доўга спала, раптоўна прачнулася. Пасля вывяржэння марскія хвалі затапілі Мумідол. Маленькія і бездапаможныя істоты ратуюцца ў дзіўным плывучым доме, дзе грымяць навальніцы, дзверы і лесвіцы нікуды не вядуць, а ў каморы поўна невядомай ежы.*

**Дудюк, З. И.** В лесу: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Дудюк Зинаида Иосифовна]. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3263-3.

**Квилория, В. Т.** Арбузный мужичок: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Татьяна Заяц]. — Минск: В. Т. Квилория, 2014. — 24 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-41-6.

**Квилория, В. Т.** Обезжиренная Адя: [для среднего и старшего школьного возраста] / В. Квилория; [художник Мирослава Костина]. — Минск: В. Т. Квилория, 2014. — 39 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-40-9.

**Клышевская, И. А.** Дикие яблони: [сказки: для младшего и среднего школьного возраста] / Ирина Клышевская; [художник Ольга Крупенкова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-730-9.

**Кудлачев, В. С.** Война глазами ребенка: [для младшего и среднего школьного возраста] / Виктор Кудлачев. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 30 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0794-6.

**Мацевило, Н. И.** Последняя гроза: невыдуманные рассказы о природе и животных: [для детей] / Нина Мацевило. — Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2014. — 47 с. — Перед выпускными данными автор: Нина Мацевило (Рудая Нина Ивановна). — 99 экз. — ISBN 978-985-6975-08-3. — ISBN 978-985-697608-3 (ошибоч.).

**Никольская, О. В.** Приключения агентов «Колбафиржик»: современная повесть-сказка: [для младшего школьного возраста] / Ольга Никольская; [художник Сергей Волков]. — Минск: Пачатковая школа, 2014. — 142 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-565-080-6 (в пер.).

**Пименова, Е. И.** Кариатиды: [сказка: для младшего и среднего школьного возраста] / Елена Пименова; [художник Любовь Сидельникова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 23 с. — Издано при участии редакции газеты «Воскресение» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-703-3.

**Полещенкова, Е. А.** Стихи: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Е. Полещенкова; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-137-9.

**Танилина, Т. Н.** Чуднярики: сказка в 2 ч.: [для детей] / Татьяна Танилина. — Минск: Галіяфы, 2014. — 236 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7021-44-4.

**Чистякова, М. Б.** Будьте здоровы!: раскраска со стишками: [для дошкольного и младшего школьного возраста / автор стихов Мария Чистякова; художник Р. В. Синкевич]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-138-6.

**Чистякова, М. Б.** Будьте осторожны!: раскраска со стишками: [для дошкольного и младшего школьного возраста / автор стихов Мария Чистякова; художник Р. В. Синкевич]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-139-3.

**Чистякова, М. Б.** Плохо! Хорошо!: [книжка-раскраска: для дошкольного и младшего школьного возраста / автор стихов Мария Чистякова; художники: О. Л. Почицкая, Р. В. Синкевич]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-144-7.

**Беларуская літаратура**

**Жуковіч, В. А.** Хто хацеў бы пакатацца?: вершы / Васіль Жуковіч; [ілюстрацыі Яўгена Надтачэя]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 50 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1421-8 (у пер.).

**Кажура, В. В.** Азбука ў вершах і малюнках / Віктар Кажура; [мастак А. Я. Саковіч]. — Мінск: Пачатковая школа, 2014. — 30 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-565-082-0.

**Карлюкевіч, А.** Як жаўна лясным жыхарам кватэры будавала: казка / Алесь Карлюкевіч; [ілюстрацыі Віталя Дударэнкі]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 53 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1510-9.

**Лявонава, Е. А.** Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад / Е. А. Лявонава; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: БДУ, 2014. — 318 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-976-4.

**Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры**

**Березко, А. Ф.** Жанр исповеди в мировой художественной традиции: практическое пособие для студентов специальности 1-21 05 02 «Русская филология (по направлениям)» / А. Ф. Березко; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — Гомель: ГГУ, 2014. — 35 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-439-876-1.

**Березко, А. Ф.** Русская литература второй половины XIX века: практическое руководство: для студентов специальности 1-21 05 02 «Русская филология (по направлениям)» / А. Ф. Березко; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — Гомель: ГГУ, 2014. — 34 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-439-877-8.

**Современная американская драматургия:** теория и практика: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет; под редакцией Ю. В. Стулова. — Минск: МГЛУ, 2014. — 99 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-601-9.

**Строк, Л. И.** Русская литература для иностранных студентов: учебно-методическое пособие для иностранных слушателей подготовительных отделений учреждений высшего образования / Л. И. Строк; Белорусский государственный университет. — Минск: БГУ, 2013. — 119 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-847-7.

**Халипов, В. В.** Семиотическая модель мирового литературного процесса: в 2 ч.: пособие для студентов, обучающихся по специальностям 1-21 05 06 «Романо-германская филология», 1-21 05 07 «Восточная филология» / В. В. Халипов; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет, Филологический факультет, Кафедра зарубежной литературы. — Минск: РИВШ, 2014— — ISBN 978-985-500-745-7.

Ч. 1: Структуралистская версия. — 2014. — 141 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-744-0.

**ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ**

**Краязнаўства**

**Белыничский район:** Могилевская область / [Белыничский районный исполнительный комитет]. — 2014. — 23 с. — 1000 экз.

**В самом сердце Беларуси:** Пуховичский район: 1924 — 2013 / [Пуховичский районный исполнительный комитет; концепция и фото: Плыткевич С.; редактор: Плыткевич Н.]. — Минск: Рифтур, 2014. — 56 с — 500 экз.

**Демянчик, В. Т.** Экологическое краеведение: учебно-методический комплекс для студентов биологического факультета специальностей 1-33 01 01 «Биоэкология», 1-31 01 01 «Биология» / В. Т. Демянчик, М. Г. Демянчик; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2014. — 134 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-555-137-0.

**Махначова, Г. І.** Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі / Г. І. Махначова. — Мазыр: Белы Вецер, 2014. — 94 с. — 2013 экз. — ISBN 978-985-542-862-7.

**Щербов, В. В.** Беларусь — наш общий дом: основные сведения из истории, культуры и обычаев Беларуси: книга для беженцев / [В. В. Щербов, А. В. Селиванов; перевод с русского языка: Омран Хосеинпур]. — Минск: Попурри, 2013. — 47 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-15-2160-5.

**Геаграфія**

**Полярники Беларуси** / [составитель Н. М. Суслов]. — Минск: Белпринт, 2014. — 119 с. — 57 экз. — ISBN 978-985-459-321-0.

**Гісторыя**

**Иртенина, Н. В.** История России: иллюстрированный атлас / Наталья Валерьевна Иртенина. — Москва: АСТ, 2014. — 255 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079902-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3090-5 (Харвест) (в пер.).

**Маннергейм, К. Г.** Мемуары / Карл Густав Маннергейм; [перевод с финского Б. С. Злобина]. — Москва: АСТ, 2014. — 571 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-084212-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3075-2 (Харвест) (в пер.).

**Гісторыя Беларусі**

**Бойцы вспоминают дороги войны:** [сборник докладов] / Представительство Россотрудничества в Республике Беларусь, Военно-научное общество при Государственном культурно-досуговом учреждении «Центральный Дом офицеров Вооруженных Сил Республики Беларусь»; [автор-составитель: Кулан Иван Николаевич; под редакцией Малашенко Виктора Александровича; литературная обработка: Архипов Иван Изосимович]. — Минск: Змицер Колас, 2014. — 159 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6992-46-2 (в пер.).

**Валахановіч, А. І.** Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі / А. І. Валахановіч. — Мінск: ФУАинформ, 2014. — 275 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6868-64-4.

**Винница, Г. Р.** Холокост на оккупированной территории Восточной Белоруссии в 1941—1944 годах: монография / Геннадий Винница. — 2-е изд., доработанное и исправленное. — Минск: Ковчег, 2014. — 449 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-43-6 (в пер.).

**Горячко, З.** Я перед вами с памятью своей: [автобиография] / Зинаида Горячко; [редколлегия: В. Ф. Балакирев и др.]; Минский международный образовательный центр им. Йоханнеса Рау, Дортмундский международный образовательный центр, Историческая мастерская ММОЦ. — Минск: Галіяфы, 2014. — 54 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7021-31-4.

**Демянчик, В. Т.** Выгонощи в Великой войне / В. Т. Демянчик. — Брест: Альтернатива, 2014. — 282 с. — Часть текста на английском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-521-438-1.

**Книжное наследие А. П. Сапунова:** материалы республиканской научно-практической конференции к юбилеям издания А. П. Сапуновым книг «Витебская старина» (т. 1, 1883) и «Река Западная Двина» (1893), [Витебск], 23 декабря 2013 г. / [редколлегия: А. И. Семкин (гл. ред.) и др.]. — Минск: Национальная библиотека Беларуси, 2014. — 289 с. — 65 экз. — ISBN 978-985-7039-40-1 (в пер.).

**Копыл, С. П.** «Пятый сталинский удар»: полоцкая фронтовая наступательная операция: 29 июня — 4 июля 1944 / С. П. Копыл. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2014. — 71 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6936-67-1.

**Левченко, Н. В.** Созвездие героев: [о Героях и дважды Героях Советского Союза, Героях Российской Федерации, полных кавалерах ордена Славы — уроженцах Быховщины] / Николай Левченко. — Могилев: Могилевская областная укрупненная типография, 2014. — 219 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7079-07-0 (в пер.).

**Лукашук, А. М.** Вяртанне нацыяналіста: дакументальныя творы / Аляксандар Лукашук; [аўтар уводзін Васіль Быкаў]. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 767 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-29-1 (у пер.).

**Метельский, А. А.** Владельцы старого Несвижа / А. А. Метельский. — 2-е изд., дополненное. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 159 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-11-0787-8 (в пер.).

**Нам жыць і помніць:** (да 70-годдзя з дня вызвалення Іўеўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў) / [укладальнікі: Л. Л. Бутурля, Г. І. Завадская, І. Б. Жышко]. — Гродна: Гродзенская друкарня, 2014. — 79 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-7037-51-3.

**Освобождение Беларуси: 1943—1944** / [В. В. Абатуров и др.; редколлегия: И. И. Басик, А. А. Коваленя (сопредседатели) и др.]; Институт истории Национальной академии наук Беларуси, Научно-исследовательский институт (военной истории) Военной академии Генерального штаба Вооруженных Сил Российской Федерации. — Минск: Белорусская навука, 2014. — 942 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1714-3 (в пер.).

**Падаляк, Т. У.** Вайна — самы страшны грэх: маральна-публіцыстычны дослед / Таццяна Падаляк. — Мінск: Звязда, 2014. — 316 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-21-3 (у пер.).



***Игнатенко, Н. А. Сказка про Тимку и Кузьку: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Наталья Игнатенко; [художник О. Б. Аракчеева]. — Минск: Пачатковая школа, 2014. — 23 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-565-083-7.***

*Вершаваная казка Наталлі Ігнаценка распавядае пра прыгоды двух мышанят — Цімкі і Кузькі. Але перад намі не проста казка. Гэта захапляльная гісторыя пра тое, як сяброўства і ўзаемадапамога дапамагаюць пераадолець любыя цяжкасці. Толькі разам героі могуць перахітрыць Лісу і сабраць сяброў за святочным сталом. Калі сябры разам — яны могуць знайсці выйсце з самых складаных становішчаў.*

**Паноў, С. В.** Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання: дадатак да падручніка «Чалавек і свет. Мая Радзіма — Беларусь» для 4-га класа (аўтары: С. В. Паноў [і інш.]) / С. В. Паноў. — 3-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 64 с. — 12000 экз. — ISBN 978-985-19-1207-6.

**Сарокін, А. М.** Беларусь: прарыў у будучае / А. М. Сарокін. — Мінск : Права і эканоміка, 2014. — 352 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай, рускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 90 экз. — ISBN 978-985-552-315-5.

**Свинтицкий, Ф. А.** Лоевский плацдарм / Федор Свинтицкий; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет продовольствия. — Могилев: МгГУП, 2014. — 235 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-6985-01-3. — ISBN 978-985-6985-01-03 (ошибоч.).

**Сінякевіч, Н. І.** Выканай заданні па прадмеце «Чалавек і свет». Мая Радзіма — Беларусь: 4-ты клас / Н. І. Сінякевіч. — Мазыр: Белы Вецер, 2014. — 22 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-542-861-0.

**Централізаванае тэсціраванне. Гісторыя Беларусі:** зборнік тэстаў, [прапанаваных абітурыентам у 2014 г.] / Установа адукацыі «Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 55 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-19-1235-9.

**Централизованное тестирование. История Беларуси:** сборник тестов, [предложенных абитуриентам в 2014 г.] / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2014. — 55 с. — 7100 экз. — ISBN 978-985-19-1234-2.

**Чудаев, М. Ф.** Казачий словарь / Чудаев М. Ф. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 134 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7090-13-6.

**Шчэрбацэвіч, А. П.** Край, дзе ўзнімаюць крылы буслы: [пра жыццё рудаяварцаў і людзей навакольных вёсак у кантэксце гісторыі Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці] / Аляксей Шчэрбацэвіч. — Брэст: Альтэрнатива, 2014. — 319 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-521-425-1.

**Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура**

**Перельман, Я. И.** Веселые задачи / Яков Перельман. — Москва: АСТ, 2014. — 288 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085482-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3297-8 (Харвест) (в пер.).

**Перельман, Я. И.** Занимательная физика / Яков Перельман. — Москва: АСТ, 2014. — 313 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085493-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3298-5 (Харвест) (в пер.).

**Перельман, Я. И.** Научные фокусы и загадки / Яков Перельман. — Москва: АСТ, 2014. — 153 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085486-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3299-2 (Харвест) (в пер.).

**Петрановская, Л. В.** Что делать, если... 2: продолжение полюбившейся и очень полезной книги: [для младшего школьного возраста] / Людмила Петрановская; рисунки Андрея Селиванова. — Москва: АСТ, 2014. — 143 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-082018-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3347-0 (Харвест) (в пер.).

**Трафимова, Г. В.** Замечательные сумки: книга для детей младшего школьного возраста / Г. В. Трафимова, С. А. Трафимов. — Минск: Народная асвета, 2014. — 40 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2136-7.

**Літаратура. Літаратуразнаўства**

**Классика и современность в изящной словесности XIX—XXI столетий:** сборник научных статей студентов, магистрантов, аспирантов / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [научный редактор Т. В. Сенькевич]. — Брест: БрГУ, 2014. — 256 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 65 экз. — ISBN 978-985-555-206-3.

**Мастацкая літаратура на асобных мовах**

**Англійская літаратура**

**Уайльд, О.** Портрет Дориана Грея: [роман] / Оскар Уайльд; [перевод с английского М. Абкиной]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-064663-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3366-1 (Харвест) (в пер.).

**Літаратура ЗША на англійскай мове**

**Александер, В.** Мои маленькие тайны: роман / Виктория Александер; [перевод с английского А. Ф. Фроловой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081941-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3274-9 (Харвест) (в пер.).



***Магільніцкі, У. Я. Мая вёсачка Вайшкуны: гісторыка-этнаграфічны нарыс / У. Я. Магільніцкі. — 3-е выд., дапрацаванае. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 147 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-7089-63-5.***

*Гэта не даследаванне прафесійнага гісторыка, а праца, зробленая аматарам-краязнаўцам і прысвечаная вывучэнню мінуўшчыны роднай вёскі. Важную частку кнігі займае апісанне жыцця і побыту вяскоўцаў. Аўтар звяртае ўвагу на побыт, звычаі, ежу жыхароў Вайшкунаў — невялікай вёсачкі непадалёк ад Лынтупаў. У цэнтры ўвагі краязнаўцы — вясельныя звычаі, тое, як спраўлялі адведкі, хрэсьбіны, святкавалі рэлігійныя святы, як адпачывалі ў Вайшкунах, як гулялі дзеці і моладзь, ладзілі вячоркі. Аўтар надзвычай цёпла і пранікнёна піша пра свае родныя мясціны, таму, думаецца, кніга не толькі захавае звесткі пра жыццё гэтай маленькай вёсачкі, але і навучыць маладых людзей любіць свой край.*

**Бернард, Р.** Страсть в жемчугах: роман / Рене Бернард; [перевод с английского Н. Н. Аниськовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081384-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3221-3 (Харвест) (в пер.).

**Грант, С.** Любовь и расчет: роман / Сесилия Грант; [перевод с английского Т. Н. Замиловой]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081741-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3352-4 (Харвест) (в пер.).

**Дрейк, О.** Если башмачок подойдет...: роман / Оливия Дрейк; [перевод с английского: А. И. Вальтер]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-082604-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3368-5 (Харвест) (в пер.).

**Ласки, К.** Дочери моря: Ханна, Мэй, Люси: [роман] / Кэтрин Ласки; [перевод с английского Е. Д. Ряхиной, Н. П. Власенко и М. С. Фетисовой]. — Москва: АСТ, 2014. — 701 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083811-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3428-6 (Харвест) (в пер.).

**Маккарти, М.** Суровая нежность: роман / Моника Маккарти; [перевод с английского М. А. Комцян]. — Москва: АСТ, 2014. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-081269-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3373-9 (Харвест) (в пер.).

**Робинсон, М.** Любовь и верность: роман / Мэгги Робинсон; [перевод с английского: М. В. Келер]. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083745-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3351-7 (Харвест) (в пер.).

**Рэндол, А.** Грехи негодяя: роман / Анна Рэндол; [перевод с английского А. Ф. Фроловой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 . — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-083533-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3372-2 (Харвест).

**Стил, Д.** Семейные узы: [роман] / Даниэла Стил; [перевод с английского Е. В. Моисеевой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085604-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3228-2 (Харвест) (в пер.).

**Стоун, Д.** Любовный поединок: роман / Джиллиан Стоун; [перевод с английского В. А. Сухановой]. — Москва: АСТ, 2014. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-079997-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3188-9 (Харвест) (в пер.).

**Нямецкая літаратура**

**Цвейг, С.** Шахматная новелла = Schachnovelle / Стефан Цвейг; [перевод: Анастасия Мархоцкая; автор иллюстраций: Катерина Дубовик]. — Минск: Коллекшн, 2014. — 87 с. — Переплет и текст параллельно на русском и немецком языках. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90276-2-8 (в пер.).

**Руская літаратура**

**Акунин, Б.** Пелагия и красный петух: [роман] / Борис Акунин. — Москва: АСТ, 2014. — 509 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085968-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3237-4 (Харвест).

**Акунин, Б.** Смерть на брудершафт: роман-кино: [цикл из 10 повестей] / Борис Акунин; [художник Игорь Сакуров]. — Москва: АСТ, 2014. — 454 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4500 экз. — ISBN 978-5-17-084811-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3342-5 (Харвест).

**Александрова, Н.** Заколдованная шкатулка: [роман] / Наталья Александрова. — Москва: АСТ, 2014. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083440-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3201-5 (Харвест) (в пер.).

**Алексеев, С. Т.** Страга Севера: [роман] / Сергей Алексеев. — Москва: АСТ, 2014. — 414 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-877077-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3443-9 (Харвест) (в пер.).

**Андреева, Н.** Звезда в хвосте льва: роман / Наталья Андреева. — Москва: АСТ, 2014. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086658-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3412-5 (Харвест) (в пер.).

**Иженякова, О.** Записки дивеевской послушницы / Ольга Иженякова. — Москва: АСТ, 2014. — 350 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086556-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3327-2 (Харвест).

*На паліцы*

# Прыгожыя забойцы

«Вялікае майстэрства артылерыі» — так назваў сваю кнігу, якая ўпершыню была надрукавана ў 1650 годзе ў Амстэрдаме, наш зямляк, славуты тэарэтык артылерыйскай справы Казімір Семяновіч. Гэтак жа можна было б назваць і першую кнігу маладога, але ўжо вядомага мінскага гісторыка Міколы Волкава, якая выйшла на пачатку 2015 года ў выдавецтве Андрэя Янушкевіча. Хаця называецца яна інакш — «Артылерыя Нясвіжскага замка» (Мінск: А. М. Янушкевіч, 2015. — 188 с.), паралель з працай Семяновіча ўзнікае сама сабой. Супастаўленне абумоўлена і зместам кнігі, і яе афармленнем. Але па парадку.

Манаграфія спадара Волкава — узор высакаякаснага навуковага даследавання гісторыі артылерыйскай справы і фартыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага на прыкладзе рэзідэнцыі наймагутнейшага магнацкага роду Радзівілаў — Нясвіжскага замка. Каб даць чытачу магчымасць зразумець, колькі ўвагі Радзівілы надавалі стварэнню і папаўненню нясвіжскага артылерыйскага парка, аўтар сцісла, але разам з тым надзвычай змястоўна адлюстроўвае асноўныя этапы зараджэння і развіцця артылерыі ў Еўропе, а таксама першыя звесткі пра выкарыстанне гармат у Вялікім Княстве Літоўскім. На такім шырокім еўрапейскім фоне даследчык пачынае свой аповед пра артылерыю Нясвіжскага замка.

Самую пільную ўвагу М. Волкаў надае стварэнню нясвіжскага артылерыйскага парка, які стаў неад'емнай часткай новай бастыённай фартэцыі, заснаванай Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткам у 1582 ці 1583 годзе. Дэталёва разглядаюцца пытанні вырабу гармат, іх забяспечанасці боепрыпасамі, іх роляй у сістэме абароны радзівілаўскай фартэцыі. Аўтар адзначае, што на працягу ўсяго часу функцыянавання Нясвіжскага замка ў якасці дзеючага фартыфікацыйнага збудавання (да канца існавання Рэчы Паспалітай) гарматы выконвалі не толькі ўтылітарную ролю, але і з'яўляліся адным з галоўных увасабленняў магутнасці і прэстыжу нясвіжскіх ардынатаў.

Шмат увагі аўтар надае сапраўдным перлінам нясвіжскай артылерыі, шэдэўрам людвісарнага мастацтва (майстэрства адліўкі гарматных ствалоў) — гарматам, якія былі выраблены па замове Мікалая Крыштава Радзівіла майстрам Мольцфельтам. Гледзячы на гэтыя гарматы, забываешся пра іх асноўнае прызначэнне і думаеш толькі пра іх выкшталцонасць як твораў мастацтва.

Пуцяводнай ніткай праз увесь тэкст праходзіць пытанне гісторыі нясвіжскіх гармат, іх пакручастага лёсу, шматлікіх перамяшчэнняў і таго, дзе ў выніку




гэтыя гарматы апынуліся. За радкамі, прысвечанымі іх гісторыі, праступае велізарная праца аўтара.

На жаль, шэдэўры людвісарнага мастацтва, якія калісьці адлюстроўвалі веліч роду Радзівілаў, зараз захоўваюцца ў музеях Польшчы, Расіі, Украіны і Швецыі, але не ў Беларусі. З іншага боку, большасць самых прыгожых нясвіжскіх гармат усё ж перажыла перыпетыі бурлівых стагоддзяў, войны і акупацыі і зараз складае самую каштоўную частку вядучых ваенна-гістарычных музеяў Цэнтральнай, Паўночнай і Усходняй Еўропы.

Асобна варта спыніцца на афармленні кнігі Міколы Волкава. Тэкст суправаджаецца шматлікімі графічнымі ілюстрацыямі, дакументамі і фотаздымкамі, якія дазваляюць чытачу атрымаць паўнавартаснае ўяўленне пра знешні выгляд фартыфікацыйных збудаванняў Нясвіжскага замка і яго артылерыі, а таксама пра тое, як выглядалі ўладальнікі Нясвіжа. Вядома, што яны аддавалі шмат часу і намаганняў развіццю артылерыі сваёй галоўнай фартэцыі. Шматлікія фотаздымкі дазваляюць ва ўсіх дэталях разгледзець дэкор нясвіжскіх гармат. Увогуле, афармленне кнігі не саступае яе зместу.

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што праца Міколы Волкава «Артылерыя Нясвіжскага замка», кніга пра «вялікае майстэрства артылерыі», з'яўляецца выданнем найвышэйшай якасці, якое выводзіць айчынныя ваенна-гістарычныя даследаванні Новага часу на прынцыпова новы ўзровень. Хочацца спадзявацца, што за першай кнігай аўтара з'явяцца і іншыя, такія ж якасныя як па навуковым змесце, так і па афармленні.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**




# З печы — у друкарню!

Сыр, аказваецца, можна вырабляць з яблыкаў, грушы — запякаць з мёдам, а ў фарш дадаваць арэхі! Беларуская кухня — гэта не толькі бульба ды ячння з салам. Нашыя продкі мелі багатую фантазію і вытанчаны густ, а вячоркі за сталом ператвараліся ў сапраўдны рытуал. Добрая сотня рэдкіх старажытных рэцэптаў увайшла ў новую кнігу «Беларускі кулінарны сшытак № 1», што з'явілася ў выдавецтве «Бяловагруп».

Прэзентацыя выдання Ларысы Мятлеўскай, этнографа, артысткі, вядучай кулінарна-гістарычнага шоу «Беларуская кухня», адбылася 7 красавіка ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Аўтар шмат гадоў збірала іаднаўляла сакрэты прыгатавання нацыянальных страў, шукала іх у кнігах XIX стагоддзя.

Частка рэцэптаў знойдзена падчас вандровак па вёсках Беларусі, у гутарках з мясцовымі гаспадынямі. Вытрымкі з кулінарнай кнігі самой Ларысы Мятлеўскай чаргуюцца з «фамільнымі» шэдэўрамі смаку ад бабуль. У яе сям'і панавала цудоўная традыцыя перадаваць рэцэпты з пакалення ў пакаленне.

«Інтарэс да гатавання ў мяне прачнуўся недзе ў 12 гадоў, калі бацька купіў у «Саюздруку» кнігу «Хатняя кулінарыя». Гэта былі прыкладна 1970-я гады. Потым кнігі з рэцэптамі кудысьці зніклі. Даводзілася вышукваць ідэі для новых страў у газетах, распытваць сяброўак і суседак. Дзяцінства маё прайшло на вёсцы, таму я рана даведалася, што такое смак хатняй печы. Назірала за бабуляй і маці. Вілы і чапялу, аднак, давялося патрымаць у руках пазней, калі я трапіла на кулінарна-гістарычнае шоу «Беларуская кухня». На працы адчуваю сябе вельмі шчаслівай, бо няма нецікавых для мяне рэчаў і фактаў у традыцыйнай беларускай культуры», — распавяла Ларыса Мятлеўская.

Дырэктар выдавецтва «Бяловагруп» Кацярына Аксёнава зазначыла, што з пачаткам перадачы Ларысы Мятлеўскай кідала ўсе хатнія справы. А потым зразумела: інфармацыю, якой валодае вядучая, трэба абавязкова сабраць у кнігу. Выданне мела тыраж у пяць тысяч асобнікаў і настолькі спадабалася аўдыторыі, што кнігу пераклалі на італьянскую і рускую мовы. Акрамя таго, кніга будзе прадстаўлена на сусветнай выстаўцы «ЭКСПА-2015» у Мілане ў пачатку мая.

Стравы, апісаныя ў «Беларускім кулінарным сшытку № 1», гатуюцца вельмі лёгка і з добра знаёмых беларусам прадуктаў. У большасці рэцэптаў пазначана, дзе і калі яны былі запісаны. Дадатковы каларыт кнізе надаюць «кавалачкі» народнай мудрасці: прыказкі, прымаўкі, парады, тлумачальны слоўнік для незразумелых выразаў, каментары наконт выбару і апрацоўкі прадуктаў і сервіроўкі стала.

«Беларускі кулінарны сшытак № 1», дарэчы, распачаў цэлую серыю пад назвай «Гастранамічная вандроўка па Беларусі». Хуткім часам з'явяцца кулінарныя зборнікі Ларысы Мятлеўскай, прысвечаныя стравам з цёртай і тоўчанай бульбы, беларускай выпечцы, сакрэтам квашання і закатак.

Падчас прэзентацыі выданне дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч расказала пра кулінарныя слабасці беларускага Песняра: пончыкі з вішнямі, каўбаскі ды паляндвіцу. Па яе словах, у Купалавым доме заўсёды гатаваўся абед з нацыянальнымі стравамі — на дваццаць пяць чалавек!

Кніга Ларысы Мятлеўскай атрымалася ва ўсіх сэнсах смачнай: змест гарманічна дапоўніла прыгожая графічна малюнкі. «Беларускі кулінарны сшытак № 1» стане ўпрыгожваннем любой кухні і выратаваннем гаспадынь, якія жадаюць парадаваць і здзівіць гасцей, а таксама прыйдзецца даспадобы ўсім, хто цікавіцца беларускай культурай і гісторыяй.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Смех рэальны і віртуальны

Трэці, сакавіцкі, нумар «Вожыка» перасцерагае чытачоў ад многіх неспадзяванак і ашуканства. Напрыклад, Наталля Кульгавая ў міні-фельетоне «Салодкія аферысты» апавядае пра нядобрасумленных гандляроў мёдам, якія прапануюць няякасны прадукт, дамешваючы ў яго што заўгодна і называючы гатункі мёду як душа пажадае, а ў іранесцы «Няўдалая прычоска, або Як супакойвалі Іну» — пра тое, як варта паводзіць сябе спажыўцам бытавых паслуг у спрэчных сітуацыях. «Навіны з МУС: матай на вус...» пазнаёмяць з белым бычком, «азартнай» табакай, топ-5 прыпынкаў сталічнага метро для кішэнных злодзеяў і цыганкай, што «здымала» суркі.

Паэты-гумарысты зазначаць, што «...Мяняюць лад жыцця вякі, // А мы ўсё ходзім да Рукі» (Мікола Маляўка), раскажуць пра бяспечнага Крумкача, у якога «...гняздо з нашчадкамі сплыло» (Лідзія Андрэева), праспіртаванага мужа, якому «...анікі чорт не страшны» (Вольга Сакалова) ды няўдалыя залёты непамятлівага лавеласа (Дзмітрый Дземідовіч).

Кнігарня «Вожыка» прадставіць новую кнігу гумару вядомага пісьменніка, гумарыста Віктара Лоўгача пад назвай «Гумар "на пасашок"», які раіць замест спіртнога «ўжываць» гумар. У чацвёртую па ліку кнігу гумару ён уключыў і новыя творы, і тыя, што былі надрукаваныя ў часопісе «Вожык». Гэта гумарэскі і іранескі, байкі ў прозе, усмешкі, небыліцы, прыпеўкі на самыя разнастайныя тэмы. А ў «Калючыку» Выдавецкі дом «Звязда» прапануе пазнаёміцца з кнігай казак украінскага пісьменніка Міхайлы Слабашпіцкага «Ці далёка да Афрыкі?». Герой яго твораў — дапытлівы хлопчык Слаўка Бондар, што марыць пра Афрыку. Але і дома хапае прыгод: хлопчык вучыцца ў школе, моцна прывязваецца да каня Каштана, чакае з геалагічнай экспедыцыі бацьку, які прывозіць яму папугая жако, прыглядае ў спёку за дрэвам на тратуары, знаёміцца з верабейкам Цінь-Цвірынь і ратуе яго ад ката...

Чакае чытачоў і працяг арыгінальных «Журналісцкіх быляў» Міхася Слівы. На гэты раз гаворка пойдзе пра няўдзячную справу — крытыку і сатыру, карову Кветку, ад якой надаілі за дзень аж 323 літры малака ды фельетон пра начальніка вузла сувязі. У іранесцы Віктар Лоўгач раскажа, як у адным універмагу паспрабавалі працаваць «З арыенцірам на еўраабслугоўванне», а Іван Пяшко ў гумарэсцы «Аперацыя "Корак"» — чым пачалося і чым скончылася пазачарговае пасяджэнне кіраўніцтва паўзакрытага акцыянернага таварыства «Факел».

Мастакі А. Каршакевіч, П. Козіч, Р. Богуш, Г. Кіслушчанка, М. Гіргель, А. Карповіч, М. Даніленка, У. Чуглазаў, В. Пузанкевіч, А. Гуцол тым часам адлюстравалі ў сваіх карыкатурах разнастайныя тэмы: экалогія і спорт, мастацтва і навучанне ў ВНУ, камп'ютары і сямейныя адносіны... З іх работ чытачы даведаюцца, пра што размаўляюць капітан карабля і прыбіральшчыца, як перамагаюць у боксе і гуляюць у хакей, чаму адным хлебам сыты не будзеш, а Алег Папоў запросіць на «Вернісаж».

Чарговая вожыкаўская мінікніжка носіць назву «Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет» і прысвечана гумару, які пануе ў сусветным павуцінні. Сёння людзі часта




смяюцца, гледзячы на экраны камп'ютараў, смартфонаў ды іншых модных гаджэтаў. З чаго смяюцца? З чалавечых хібаў і заганаў, адносін паміж людзьмі, паводзін жывёл, дасціпных карыкатур, анекдотаў, афарызмаў і многага іншага. Словам, хутчэй бярыце ў рукі мышкі і — усміхайцеся! Разам з «Вожыкам».

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Партрэт ажывае

**З кожным годам актывізуецца роля рэгіянальных цэнтраў Беларусі. Адзін з такіх — старажытны горад Ліда, што на Гродзеншчыне, дзе знаходзіцца Лідскі гісторыка-мастацкі музей. Кіруе гэтай культурнай установай ужо больш як 20 гадоў выпускніца Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, мастацтвазнаўца Таццяна Нікіфарава.**

Яна мае свой запаветны ключык да сэрцаў аматараў культурнага жыцця, заўсёды прапануе арыгінальныя экспазіцыйныя праекты, падтрымлівае новых мастакоў.

Так, сёлета ў Лідскім гісторыка-мастацкім музеі адбылася прэзентацыя твораў мастачкі Марыны Эльяшэвіч пад назваю «За кітайскім мурам». Далёкаўсходні напрамак абраны невыпадкова: творца ўжо не першы год прапагандуе жывапіс тушшу і мінеральнымі фарбамі на рысавай паперы. Метады кітайскага адлюстравання вядомыя — хуткамгненна, лаканічна, натхнёна маляваць тое, што звязана з матывамі прыроды, навакольнага жыцця, вобразамі гісторыі і сучаснасці. Марына выдатна ведае ўсходнія ўзоры, з задавальненнем наведвае Пекін, але аддае перавагу айчынным сюжэтам і матывам. Гэта выклікае цікаўнасць як беларускіх, так і кітайскіх аматараў яе творчасці, якія бачаць у творах мастачкі прыклад сучаснага дыялогу культур.

Лідчане таксама не засталіся абыякавымі да шматлікіх твораў М. Эльяшэвіч — пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў слынных жанчын Беларусі... У майстар-класе, які перад адкрыццём выстаўкі праводзіла мастачка, прымалі ўдзел прыхільнікі кітайскай тэхнікі жывапісу самага рознага ўзросту. Па ўсім відаць, што прага да спасціжэння Усходу, закладзеная культурнымі традыцыямі эпохі барока з яе надзвычайным шляхецка-магнацкім арыенталізмам, не згубіла прыцягальнасці ў нашым грамадстве.



Марына Эльяшэвіч «Соф'я Гальшанская».

Сапраўдный разынкай адкрыцця выстаўкі стаў гістарычны перформанс, прысвечаны падзеям 1422 года, калі, паводле легенды, у Лідскім замку кароль Ягайла ўрачыста адзначаў шлюб з маладой жонкай Соф'яй Гальшанскай. Марына Эльяшэвіч падаравала музею партрэт прыгожай заснавальніцы славутага каралеўскага роду Ягайлавічаў. Паглядзець на твор прыйшоў сам Ягайла і яго верныя рыцары ў гістарычных строях (удзельнікі грамадскага аб'яднання лідскіх аматараў гісторыі). А паколькі выстаўка таксама звязана з шанаваннем веснавога абуджэння прыроды і харавства жанчыны, супрацоўніцы музея стварылі жывы партрэт красунях розных часоў!

Думаецца, што наватарская творчая праграма Лідскага гісторыка-мастацкага музея вартая падтрымкі і пашырэння як у рэгіянальных, так і сталічных выставачных установах.



Жывы партрэт красуняў розных часоў.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Малітва Маці Тэрэзы

Напрыканцы сакавіка Вялікая зала Белдзяржфілармоніі напоўнілася шыкоўнымі мелодыямі, якія беларускаму гледачу падарылі Хор Латвійскага радыё і камерны аркестр «Sinfonietta Riga» пад кіраўніцтвам славутага латвійскага дырыжора Сігвардса Клявы. Канцэрт «Малітва Маці Тэрэзы» — у гонар старшынства Латвіі ў Савеце Еўрапейскага саюза.

Паводле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадара Міхаілса Папкоўса, гэта ўжо не першая імпрэза. Днямі прайшоў тыдзень культуры Латвіі: адбыліся кінапаказы ў сталічных кінатэатрах і на беларускім тэлебачанні, прайшлі сустрэчы латвійскіх і беларускіх кінарэжысёраў, у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адкрылася выстаўка «Бурштын — Жамчужына Балтыйскага мора». Летам у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы плануецца выстаўка, прысвечаная народным паэтам Латвіі Янісу Райнісу і Аспазіі. Міхаілс Папкоўс паабяцаў таксама прадставіць падчас адкрыцця экспазіцыі шэраг літаратурных твораў сучасных латвійскіх аўтараў з мэтай арганізацыі дыялогу латвійска-беларускіх культур.

Спадар пасол падкрэсліў важнасць правядзення канцэрта духоўнай музыкі «Малітва Маці Тэрэзы»: на ім можна пачуць, чым сёння жыве латвійская культура. Хор Латвійскага Радыё і камерны аркестр «Sinfonietta Riga» ў 2014 годзе былі адзначаны сусветнавядомай прэміяй Grammy за запіс музыкі эстонскага кампазітара Арво Пярта «Adam's Lament».

На філарманічным канцэрце прагучалі творы Рыхардса Дубры «Цішыня, любоў і святло», Петэрыса Васкса «Малітва» і «Плод цішыні», Эрыкса Эшэнвалдса «Кропля ў акіяне», Андрэйса Селецкіса «Літанія Маці Тэрэзы». Сігвардс Клява не толькі дырыжор і мастацкі кіраўнік Хору Латвійскага Радыё, але яшчэ і педагог і прадзюсар. Незабыўныя ўражанні пакінулі выкарыстаныя ў музычнай канве твораў перазвон, шум ветру, а таксама гучанне на фоне аркестровых і харавых партый двух дудароў. Апошнія перадавалі народную латвійскую тэматыку.

Маці Тэрэза (1911 — 1997) — славутая манашка, заснавальніцай каталіцкага ордэна Міласэрнасці. Яе шануюць па ўсім свеце і як лаўрэатку Нобелеўскай прэміі міру (1979) «За дзейнасць у дапамогу абяздоленаму чалавеку», і як заснавальніцу манаскай кангрэгацыі «Сёстры місіянеркі Любові». Дзякуючы яе дзейнасці былі створаны шматлікія школы, прытулкі, бальніцы для цяжкахворых і абяздоленых людзей незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. У 2003 годзе Маці Тэрэза прылічана да ліку блажэнных. 26 жніўня 2015 года свет будзе адзначаць 115-годдзе з дня нараджэння гэтай жанчыны.

**Дар'я ЛЁСАВА**

# Perpetuum Mobile

Міжнародны фестываль кароткаметражнага кіно «Cinema Perpetuum Mobile» (CPM) распачаўся 10 красавіка ў Беларусі. Фестывальная праграма будзе прадстаўлена не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах, у тым ліку Брэсце, Магілёве, Баранавічах, Мазыры, Салігорску. Сталічныя паказы праходзяць у кінатэатры «Цэнтральны», Цэнтры сучасных мастацтваў, Музеі гісторыі беларускага кіно.

У праграме 110 фільмаў з 17 краін-удзельніц. Традыцыйна гэта игравая, дакументальная, эксперыментальная і анімацыйная секцыі. Гасцей чакаюць новыя аўтарскія працы з Іспаніі, Францыі, Індыі, Даніі, Нарвегіі ды іншых краін. Упершыню падчас фэсту на вялікім экране кінатэатра «Цэнтральны» можна ўбачыць конкурсны паказ найноўшых фільмаў беларускіх рэжысёраў.

Мерапрыемства наведалі госці з Германіі, Польшчы і Ірана, якія прадставілі свае кінастужкі, а таксама падзяліліся досведам з беларускімі калегамі. У Беларусь прыехалі члены журы з Бельгіі, Швейцарыі, Чэхіі і Расіі.

На адкрыцці кінафестывалю можна было ўбачыць лепшыя фільмы па выніках галасавання гледачоў у гэтым годзе. Заключнай часткай праграмы стаў выступ папулярнага гурта «НагУаль».

Адначасова з паказамі CPM-2015 у Беларусі адбываецца паказ спецыяльнай міжнароднай праграмы фестывалю за межамі краіны. «У міжнародную праграму мы абавязкова ўключаем кінастужкі беларускіх аўтараў, якія становяцца сапраўдным адкрыццём для замежных гледачоў. Несумненна, так яны знаёмяцца з нашай краінай і таленавітымі людзьмі. Для маладых рэжысёраў гэта добрая магчымасць пашырыць геаграфію паказаў сваіх фільмаў і завесці карысныя кантакты», — пракаментавалі каардынатары кінафестывалю «Cinema Perpetuum Mobile».

Адна з асаблівасцей CPM — правядзенне адкрытых папярэдніх праглядаў перад стартам фестывалю. На перадпрагляды запрашаюцца ўсе аматары кіно, якія ўдзельнічаюць у адборы кінастужак, дасланых з усяго свету. На падставе атрыманых дадзеных каардынатары фэсту вызначаюць сярэдні бал фільма і яго месца ў агульным рэйтынгу, што ўлічваецца пры фарміраванні конкурснай і пазаконкурснай праграм.

Кінафестываль «Cinema Perpetuum Mobile» быў заснаваны ў 2011 годзе беларускай супольнасцю энтузіястаў-кінаманаў «Kinaklub.org». Фэст накіраваны на прасоўванне незалежнага аўтарскага кінематографа, развіццё беларускага кіно, а таксама стварэнне пляцоўкі для дыялогу паміж кінаграмадскасцю і кінааматарамі па ўсім свеце.

**Ганна ШЫМУК**

# Урбаністычны мінімум

Выставачны праект «СамаПАЗНАВАННЕ: Прасторы / Перспектывы» з серыі «Этнаграфія гарадскога мастацтва — Urban Art» адкрыўся ў Мемарыяльным музеі-майстэрні З. І. Азгура. Свае працы прадставілі тры творцы, якія аб'ядналіся з мэтай адлюстраваць гарадскія ландшафты ў незвыклых ракурсах, «ажывіць» архітэктурныя формы і надаць ім пэўны сэнс.

Мільяна Істыянавіч, скульптар з Чарнагоры, прадставіла мінскай публіцы фотаінсталяцыю рэльефаў на сценах закінутых будынкаў — так званыя прасторавыя інтэрвенцыі.

Абіраючы частку месца ў памяшканні для сваіх кампазіцый, напрыклад, ствараючы іх у сцяне, Мільяна Істыянавіч быццам укліньваецца ў звыклы рух часу. Такім чынам, старая прастора сутыкаецца з новай, пашырае свае межы, напаўняецца іншай энергетыкай. Мільяна Істыянавіч выходзіць з жадання пакінуць уласныя творчыя сляды, зрабіць бачнай сваю прысутнасць на пэўным месцы. Творы, якія скульптар прадставіла ў Мінску, уваходзяць у склад двух яе праектаў: «Часовае назаўсёды» і «СамаПАЗНАВАННЕ».

Выстаўка ўключае і здымкі Грэгара Раданіча са Славеніі — фатаграфіі з цыкла «Прасторы / Перспектывы». Працы мастака прасякнутыя атмасферай пустых будынкаў. Людзей няма — толькі сцены, дзверы, з якіх ліецца святло, гарадскія тунэлі і ледзь прыкметныя сляды. Грэгар Раданіч «змагаецца» з невыразнасцю краявідаў, якія нас акаляюць кожны дзень, — па дарозе на працу ці вучобу, у краму альбо тэатр.



Грэгар Раданіч.

Ён знаходзіць яркую асаблівасць якога-небудзь ландшафту і паказвае яго з прынцыпова новага боку. Фотамастак выкарыстоўвае розныя фарматы і тэхнікі — прычым, як у чорна-белым варыянце, так і ў колеры.

Трэцім элементам выстаўкі ў музеі стала аўдыяінсталяцыя беларускага альтэрнатыўнага музычнага праекта «RoomDark», які працуе ў стылі эксперыментальнага эмбіенту.

Выстаўка рэалізаваная ў рамках навукова-даследчага і адукацыйнага праекта «Лабараторыя культурных практык ММА» ў межах мастацка-адукацыйнага фэсту «ARTES LIBERALES». Падоўжыцца вернісаж да 8 мая.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Гэта інтэрнэт, дзетка...»

Давайце шчыра — і пра сеціва.

Ёсць падставы, праўду кажу. Літаральна днямі ў сацыяльнай сетцы адзін суразмоўца сказаў другому, што той — клінічны ідыёт. І кропка. Калі б тое было зроблена на старонцы папяровай газеты — высвятлялі б у судзе, ці меў рацыю першы, прысвоіўшы сабе здольнасці ставіць дыягназ на адлегласці...

Ці трэба сёння пісьменніку інтэрнэт? Калі трэба, то ў якой якасці? Ці з'яўляецца сёння сеціва і асабліва сацыяльныя сеткі толькі сістэмай камунікацыі кшталту мабільніка? Над гэтымі пытаннямі і прапаную паразважаць.

## ПАЧАТАК ВЭРХАЛУ

Маё знаёмства з сецівам адбылося даўно і было звязана з ідэяй зрабіць рэсурс свайго раёна пры газеце. Дзе вучыцца? Ды на форуме Народ.ру. Там жа і сайт просценькі можна было стварыць. Неўзабаве звярнуў увагу на аднаго наведвальніка форуму, актыўнага, дасведчанага, як падалося. Ён лез ва ўсе тэмы, вучыў усіх і рознаму, безапеляцыйна выносіў вердыкты... Зайшоў на яго сайт і стала вусцішна: на ярка-сінім фоне ішоў тэкст вялікімі чырвонымі літарамі. Яго гаспадар сцвярджаў, што такая падача — самы сучасны і эфектыўны падыход... Пазней пазнаёміўся з сапраўдным спецыялістам. Пасябравалі — віртуальна, так мовіць. І спытаўся я пра першага свайго знаёмага-«наватара».

— Ты хіба не зразумеў? Чалавек хворы на галаву, гэта ж відавочна.

— Але ж... Тут сеціва, як гэта атрымліваецца? — разгубіўся я.

— Дык у тым і справа, што — сеціва! — рассмяяўся мой сябра. — Адкрыты доступ для ўсіх! Кожны можа стварыць старонку, весці гутарку, кожны! Няма рэдактараў, кожны сам сабе гаспадар. Што хоча і як хоча, так і піша... абы было ў межах дазволенага. Ну, вайну не прапагандаваць, па нацыянальных прыкметах не грызціся і падобнае... А так — хоць Напалеонам сябе аб'яві, чаго ўжо спыняцца на званні гуру ў сайтабудаўніцтве...

Хутка я зразумеў, што літаральна на кожным форуме сустрэнецца, мякка кажучы, чалавек неадэкватны. Сеціва — не сход запрошаных, не з'езд упаўнаважаных. Сюды прыходзяць кожны ў тым абліччы, у якім яму хочацца. З цягам часу тут сфарміравалася адно, але вельмі істотнае правіла: ніякіх правілаў. «Як хаціш, так і гаварыш».

Адначасова нарадзіліся тролі, прасцей кажучы, — правакатары, якія выклікалі субяседнікаў на спрэчку, на шчырасць, на распальванне эмоцый і падобнае. Самі тролі і іх дзейнасць праз кароткі час сталі прадметам даследаванняў — тут варта было казаць пра пэўны феномен, калі чалавек прыходзіў у супольнасць з адзінай мэтай: займець вядомасць праз правакацыйныя паводзіны, скандалы і эксцэсы. У беларускім сегменце мне давялося сустрэць колькі такіх троляў, якія апраўдваліся ахвярным жаданнем «расшавяліць затхлае балота белліту». За родную літаратуру, бач, сарочкі рвуць...

## КРУШЭННЕ АЎТАРЫТЭТАЎ

Адзін сучасны пісьменнік неяк са мной падзяліўся: «Для мяне, юнага некалі і больш сталага, пісьменнікі былі не людзьмі — багамі! Сустрэцца недзе з імі... не ўяўляў нават, як гэта можа быць. І лічу, такое стаўленне правільнае. Пісьменнік павінен заставацца для чытача хоць у нечым невядомым, загадкавым... такім, каб нават пасля сустрэч з чытачамі гэтая загадкавасць заставалася...»

Можна паспрачацца з такім пунктам гледжання, але пэўная тэндэнцыя праглядваецца ў стаўленні нашых грамадзян да людзей паважаных прафесій.

«У сеціве ўсе роўныя!», «У сеціве няма ўзросту» — гэтыя «аксіёмы» даводзілася не толькі чуць, але і «бачыць у дзеянні». Напрыклад, з доктарам філалагічных навук пачынае спрачацца ўчарашні выпускнік, які ледзь агораў школьную праграму. У Фэйсбуку ніхто не патрабуе паказваць хаця б школьны атэстат, калі нехта ўступае ў гутарку са сваімі катэгарычнымі меркаваннямі адносна шляхоў развіцця беларускай літаратуры на аснове тэндэнцый апошняга дзесяцігоддзя ў святле сучаснай сітуацыйнай калізіі.

І паколькі выпускнік і доктар навук розняцца не толькі наяўнасцю ведаў і вопыту, але і этыкай паводзін, то часцей за ўсё ў любой спрэчцы верх атрымае нахабны, дзёрзкі, элементарна нявыхаваны. Наўрад ці гэта будзе доктар навук. Бо ён не зможа апусціцца да ўзроўню нахабніка, ён проста змоўчыць у адказ і такім чынам для свайго «апанента» будзе пераможаным. На жаль, колькасць разумных і выхаваных людзей у грамадстве — велічыня пастаянная, а вось людзей у сацыяльных сетках усё большае...

Праглядаючы некалі папулярны форум беларускіх літаратараў, жахнуўся ад узроўню дыскусій: абразы з мацюкамі — на многіх старонках. Найбольш уразіла іншае: як зусім невядомы, пачынаючы аўтар, уступаў у гарачую спрэчку з літаратурным мэтрам і пры гэтым не наўпрост даводзіў свой пункт гледжання, а выстаўляў сябе знаўцам і талентам, а субяседніка — графаманам і бяздарнасцю. Гэта выклікала і ўсмешку, і прыкрасць. У іншым месцы чарговы маладзён ужо вучыў суполку: што трэба пісаць і як. Карацей, стапрацэнтны тролінг. А недзе і хворы палон фантазіі асабістай выключнай геніяльнасці...

Форумы адышлі ў мінулае, сацыяльныя сеткі сталі іншымі, але адносіны ў спрэчках і дыялогах засталіся тымі ж. Суполкі, як правіла, утрымліваюць, акрамя асобных адзіночак, яшчэ і цалкам сфарміраваныя ў жыцці групы рэальных сяброў. І яны актыўна падтрымліваюць «сваіх» у спрэчках. Карпаратыўная палітыка лунае ў паветры, яна праяўляецца ў самым хуткім часе, калі нехта, кажучы шэптам, губляе нюх і пачынае крытыкаваць творчасць ці пункты гледжання таго, хто ўключаны ў шэрагі тых ці іншых «нашых».

## ПАМЫЙКА, КЛАДОЎКА, АРХІЎ?

Апошнім часам сеціва паказала, што яго шлях развіцця — да нівеліравання, да страты аўтарытэту, да пэўнай дэградацыі. Сёння даваць электроннай крыніцы азначае не ведаць праўду, а стаць усяго толькі спажыўцом інфармацыйнага прадукту невядомай якасці. Мы шукаем праўду, а нам прапануюць інфармацыю. Пагадзіцеся, розніца ёсць!

Калі зірнуць на сеціва з літаратурнай вяршыні, тут адбываецца неверагоднае. На вядомых рэсурсах, дзе кожны ахвотны можа размясціць свае літаратурныя спробы (кшталту стихи.ру і проза.ру), пабачым мільёны запісаў! Ці не мільён аўтараў!

Поўная адсутнасць рэдактарскага кантролю прывяла да размывання межаў якаснай літаратуры, да азначэння літаратуры ўвогуле. Следам за самадзейнымі аўтарамі з'явіліся «самазваныя» крытыкі і літаратурныя эксперты. А сапраўдныя крытыкі, якія маюць і вопыт, і веды, у сеціве больш маўчаць. І прычына дастаткова зразумелая.

Любы крытычны артыкул — гэта праца. Праца павінна аплачвацца. Але толькі адзінкі сайтаў у Беларусі могуць заплаціць аўтару за апублікаваны матэрыял. Толькі адзінкі сайтаў цікавіць літаратура. І больш за тое: нешматлікія сайты, якіх цікавіць літаратурная крытыка, маюць практыку замаўляць крытычныя артыкулы на пэўныя кнігі пэўных аўтараў. Нічога дзіўнага, але ж...

Таму сеціва ў асноўным неверагодна беднае на сапраўдную літаратурную крытыку,



Калаж Кастуся Дробава

аналіз літаратурнага працэсу. Больш-менш глыбокіх спрэчак наконт твора, як правіла, не ўзнікае ніколі. З аднаго боку, навошта сапраўднаму крытыку раскрываць свае погляды задарма, калі, магчыма, пашанцуе атрымаць за гэта грошы, а па-другое... На аднаго ўзважанага, вопытнага, дасведчанага крытыка знойдзецца пяць гарлапанаў, якія з лёгкасцю пяройдуць з тэксту на асобу аўтара, калі трэба — абразяць, успомняць нейкія там дзеі і слоўцы (што раней прасочваліся ў сеціва), пройдуцца і па радавым дрэве... Карацей, тролі жылі, жывуць, і практыка паказвае, што жыць будуць доўга і шчасліва.

У канкрэтным выпадку мы амаль бяссільныя нешта супрацьпаставіць. За доўгія гады ведаю толькі адзінкавыя гісторыі, калі чалавек, якога абразілі, шукаў абарону ў судзе — бо іначай як прымусіць аўтара абразлівага допісу нешта выдаліць? Але зварот у суд можа быць (і так ёсць, было!) расцэнены як помслівасць, праяўленне слабасці і няўменне жыць у сеціўным грамадстве «па паняццях».

## ТРОЛЬ: МЭТА І СРОДКІ

Вось у чым яшчэ фокус, калі размова ідзе пра пісьменніка, творцу. Непасрэдна ацэнка чалавечых якасцей, характару мае нейкія падставы для існавання ў іх, скажам так, юрыдычна ацэнены абразаў, а вось ацэнка творчасці літаратара — гэта па-за межамі магчымых судовых разборак. На самай справе, калі я скажу, што для мяне «Валошкі на мяжы» Уладзіміра Гніламёдава — нудотны твор — я ж чалавека не абразіў, а выказаў асабістае меркаванне пра раман!

І менавіта гэта тлумачыць існаванне сеціўнага літаратурнага троля.

Троль заззвычай — адзінокі ў жыцці, не здольны да нармальнага камунікавання з людзьмі чалавек. Псіхалагічны склад яго характару патрабуе пастаяннай увагі да сябе, ён сілкуецца рэакцыяй чытачоў на свае закіды — рэзкія, правакацыйныя допісы і рэплікі. Гэта вымушае пастаянна ўзвышаць градус сваіх меркаванняў. Да прыкладу, ад ацэнкі «тут адсутнічае паэзія» троль мусіць перайсці да «гэта брэд сівай кабылы». Другі кірунак — выбар аб'екта ці суб'екта нападаў. Каб выклікаць больш рэзананс, утрымліваць на сабе ўвагу і цікавасць, троль пераходзіць на прызнаных аўтараў, «руйнуе» агульнапрызнаныя каштоўнасці і гэтак далей. Ён становіцца ў позу незалежнага, смелага крытыка, не сустракае супрацьву і патрапляе ў палон фантазіі сваёй геніяльнасці, выбранасці.

Насамрэч уся яго дзейнасць выклікана хваравітай патрэбнасцю быць у цэнтры ўвагі, не згубіцца сярод соцень тысяч наведвальнікаў сеціва. Тролю важна адно: каб пра яго гаварылі, каб хоць якім бокам уваходзіць у жыццё іншых людзей, мець нейкую вагу і значнасць.

Тролі надзвычай чуйныя, яны ўмомант знаходзяць падобных да сябе і здольныя аб'ядноўвацца ў сумесных нападах, падтрымліваючы і нацкоўваючы адзін аднаго. Так, акрамя сфарміраваных у рэале груп «нашых», з'яўляюцца ў сеціве і групы троляў. Але калі першыя створаны менавіта з мэтай абароны саміх сябе і сяброў, то гэтыя — для сумеснага нападу, для нішчэння сваіх «ворагаў», якіх яны абіраюць па асабістых меркаваннях — з улікам даўніх крыўдаў, дробных заўваг. Часам дамінуе і элементарная зайздрасць — не столькі да таленту, колькі да вядомасці, публічнасці, пасляховасці.

Што рабіць? Лепшы і пакуль адзіны эфектыўны сродак — маўчанне ў адказ. Сеціўныя тролі маюць вялікую залежнасць ад назіральніка. Сутнасць яе нескладаная: без назіральніка троль знікае. Ён жыве чужымі эмоцыямі, а калі іх няма — памірае. Канечне, перад гэтым троль давядзе да максімуму сваю дзейнасць. Прага жыць (значыць, знаходзіцца ў полі цікавасці іншых людзей) штурхае яго на самыя адчайныя крокі, на адкрытае цкаванне асобаў, на балансаванне на мяжы закона, а пазней і на прамыя абразы, кепікі і здзекі. Парада: не карміце троля — і вы не згубіце нічога. Наадварот, набудзеце раўнавагу.

Галоўнае — зразумець, што нешта ў сеціве мае значэнне толькі ў той ступені, у якой мы яго надаём. Унікальнасць сеціўнага свету ў тым, што ён існуе для нас толькі тады, калі мы прызнаём яго існаванне ў сабе.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Безумоўна, сеціва — адзін з самых эфектыўных сродкаў камунікавання. Для распаўсюду інфармацыі ў сённяшні час лепшага пакуль няма. І ў той жа час з публічнай пляцоўкі для сур'ёзнага абмеркавання нейкіх злабадзённых пытанняў сеціва стала месцам прыватных разборак, абмену ўколамі, тролінгу. Сумна? Ну, трошкі і сумна, але...

Але ўсім гэтым сеціва абвяргае нібыта хуткую і непазбежную смерць папяровых СМІ. Менавіта папера, якая быццам можа сцярпець усё, за гэты час паказала сябе як «адказны таварыш». І гэта значыць, ёй заставацца яшчэ доўга ў нашым жыцці правобразам і асновай сапраўднасці, адказнасці і пристойнасці.

Дык ці трэба пісьменніку сеціва?

Трэба, але трэба як тэлефон, як просты сродак камунікавання. Трэба, але толькі асобныя рэсурсы, адказнасць якіх грунтуецца на іх афіцыйным статусе. А ўсё астатняе няхай сабе будзе. У віртуальным свеце, які існуе тады, калі мы пачынаем бачыць яго і «карміць» сваёй рэакцыяй.

Існаванне ж у сеціве твораў пісьменніка — тэма асобнай гутаркі.

**Валеры ГАПЕЕЎ**

# На лініі кахання: інтэлігентны рок

**«Мая музыка — гэта разважанні закаханага чалавека», — прызнаўся інтэлігентны хлопец у клятчастай кашулі, задумліва пацягваючы капучына. Міла? Нічога падобнага! Франтмен гурта HURMA Мікіта Найдзёнаў падчас размовы з карэспандэнтам «Літаратуры і мастацтва» расказваў пра рэчы зусім не банальныя: складанасць лёсу рок-музыкантаў у нашай краіне, касмічнасць беларускай мовы, нараджэнне вершаў у метро і «правіла мокрых маек». Ён проста і з гумарам ставіцца да сябе, уласнага голасу, імклівай змены складу гурта. І не баіцца раскрываць творчыя козыры!**



**— Мікіта, чым HURMA парадуе ў найбліжэйшы час?**

— Наступным канцэртам, які адбудзецца 16 мая. HURMA будзе хэдлайнерам на фестывалі ў Маладзечне. У тую ж ноч мы адыграем у музеі Янкі Купалы ў Мінску. Да выхаду альбома таксама запланавана серыя выступаў — па Беларусі і, магчыма, у Польшчы і Літве.

**— Хутка адсвяткуеце «нараджэнне» сольніка? Наконт назвы: чаму менавіта «Repeat»?**

— Альбом мы рыхтуем ужо больш за год — і плённая праца ўрэшце на стадыі завяршэння! Засталося запісаць толькі адну песню. На дыску будзе прыкладна дзесяць кампазіцый, восем з якіх — абсалютна новыя, то бок прэм'ерныя. Чаму «Repeat»? Усё проста: песні, у якія ты ўклаўся цалкам, павінны быць на паўторы ў слухачоў. Увогуле, хочацца, каб людзі куплялі дыскі. Хоць гэта і не ўласціва апошнім часам беларускай музыцы. Мы нават плануем не ўсе трэкі з альбома выкладаць у інтэрнэт. Мала хто разумее, што ў музыкантаў няшмат заробкаў, бо ўсе бясплатна пампуюць песні з сеціва. Мы б хацелі крыху змяніць сітуацыю.

## ПАРАДЫ ПАЧАТКОЎЦАМ: ЯК НЕ ЗАСТАЦЦА Ў НЕВЯДОМАСЦІ?

**— Што рабіць маладым музыкантам, каб выбіцца «ў людзі»?**

— Артыст павінен здзіўляць! Абавязкова выходзіць і паказваць сябе. Сустракацца са слухачамі. Пачынаць можна з дробных выступленняў, як мы, дарэчы. Ды і зараз наш гурт чуваць на розных пляцоўках: як у вялізным клубе ці на фестывалі, так і ў сценах факультэта. Маладому калектыву важна не перасядзець на рэпкропцы — згубіцца першасны энтузіязм, самы каштоўны. Для камерцыйнага поспеху музыканты павінны зыходзіць з жаданняў аўдыторыі. Мы ж нахабна робім тое, што нам падабаецца (*Смяецца.*) Увогуле, не трэба баяцца нешта мяняць — карэнна ці часткова. Музыкант абавязаны быць мабільным, але ў той жа час «гнуць сваю лінію».

**— Як ты ацэньваеш беларускую «рок-арэну»?**

— Беларуская рокавая сцэна — гэта энтузіясты, якія робяць музыку, таму што не могуць без яе жыць. Складана сказаць, хто з рокераў зарабляе выключна творчасцю. Я такіх не ведаю. У асноўным шмат часу надаюць сваёй працы, а музыкай займаюцца ў вольныя хвіліны. Узровень нашых музыкантаў нармальны, але калі б ім за гэта яшчэ і плацілі, то было б больш магчымасцей для ўдасканалення.

**— Ці складана зрабіць эфектны канцэрт пры абмежаваных сродках?**

— Галоўнае — напісаць матэрыял, які будзе гучаць якасна, а потым думаць пра шоу. Цудоўна, калі музыканты не стаяць як слупы, могуць паміж песнямі сказаць пару слоў — для гэтага грошы не патрэбныя. Толькі фантазія! Калі мы рабілі летась канцэрт у клубе «Піраты», замовілі вялікія паветраныя шары і пускалі іх у зале на лірычнай песні. Усё залежыць ад стылістыкі гурта і жанру музыкі. Аднойчы «Бі-2» выязджалі на сцэну ў труне. І гэта было эфектна. Нам, канечне, такі рэквізіт не вельмі пасуе. Гэта будзе ўжо не HURMA, а HIM ці My Chemical Romance.

## ПЯЦЁРА Ў «ЛОДЦЫ» І ТРОХІ ЖАРТАЎ

**— Хто іграе з табой у камандзе зараз?**

— Ведаеце, HURMA — калектыў, у якім вельмі часта мяняецца склад музыкантаў: больш за дзесяць чалавек за тры гады. Справа ў тым, што гурт — хутчэй творчасць у чыстым выглядзе, чым камерцыйны праект. І мне хочацца іграць з тымі, каму гэта сапраўды цікава. Сёння HURMA аб'ядноўвае пяць чалавек. Сярод іх, акрамя мяне, — басіст Максім Ганціеўскі, драмер Зміцер Рынейскі, бэк-вакаліст Аляксей Куляшоў, адзін са «старажылаў», і гітарыст Яўген Кунічкін. Ён, дарэчы, наша знаходка: можа выконваць што заўгодна — джаз, рок, поп.

**— Што галоўнае для вашай каманды?**

— Атмасфера. З аднаго боку, сур'ёзная, а з іншага — спакойная, лайтовая. На шчасце, я перайшоў той перыяд, калі хацеў з гуртом HURMA займець сусветную вядомасць. Зразумеў, што трэба проста класна рабіць сваю справу, ладзіць для слухачоў сюрпрызы, увесь час прываблiваць новымі адкрыццямі. Вось што самае важнае!

**— Лідар ты? Ці ўсе на роўных?**

— Я тыран, аўтарытарыст і ўзурпатар (*Смяецца.*) Людзі, якія прыходзяць, прыносяць нешта сваё, але мы не завязаныя адзін на адным. Мая галоўная місія — быць мастацкім кіраўніком, пісаць песні, адказваць за аранжыроўку, канцэпцыю выступаў. HURMA — «жывы арганізм», бо кожны ў гурце мае права на меркаванне. Быў час, калі ў калектыве ігралі музыканты, старэйшыя за мяне, а зараз — я самы дарослы. Усе прыблізна аднаго ўзросту, таму нам вельмі камфортна! На рэпетыцыях хоць і працоўны настрой, але без жартаў не абыходзіцца ніколі.

**— Былі смешныя выпадкі?**

— Аднойчы нас паклікалі выступіць пад фанаграму на тэлеперадачы «Брэйн-рынг». Там жа галоўнае — карцінка! Вось мы і вырашылі пажартаваць. Драмер стаў ля мікрафона, гітарыст і басіст памяняліся інструментамі, а я ўзяў тамбурын і пераўтварыўся ў бэк-вакаліста. Ніхто з людзей, якія нас бачылі ўпершыню, не заўважыў падмены. Мы ж не зоркі, якіх усе ведаюць!

**— З дысцыплінай у вас усё добра?**

— Не зусім. У нас ёсць шэраг негалосных правілаў. На рэпэтыцыі публіку не прыводзім. Перад выступленнямі ніхто з музыкантаў не ўжывае алкаголь. Раней было «правіла мокрых маек» (трэба яго зноў увесці): калі ты адыгрываеш выступ, то не маеш права заставацца ў сухой саколцы. Прысуд будзе адназначны: халтурыў!

**— У чым таямніца назвы HURMA?**

— Яе ўвогуле няма. У першым складзе гурта гэта была проста абрэвіятура імёнаў удзельнікаў — Харытон, Уладзімір, Рома, Мікіта і Андрэй. З тых часоў і пайшло.

**— Што самае цяжкае і прыемнае ў творчасці гурта?**

— Вельмі складана зрабіць так, каб усе музыканты ставіліся да творчасці аднолькава сур'ёзна — і не было выпадковых людзей у камандзе. Цяжка было пераадолець момант невядомасці, але мы ўсё роўна рабілі сваю справу. Самае прыемнае — ведаць, што твае песні слухаюць, захоўваюць у плэйлістах, знаходзяць адказы на істотныя пытанні, робяць каверы.

## ФІЛАСОФСКІ «ПАЧАСТУНАК»

**— HURMA змяніла цябе? Ці можа ўвогуле мяняцца чалавек?**

— Безумоўна, усе людзі ўплываюць адно на аднаго. Нават наша інтрэв'ю — гэта нейкая змена ў свядомасці. Вы адкрылі для мяне новую інфармацыю, я шмат нагаварыў вам. Калі зазірнуць у псіхалогію, то карэнныя змены адбываюцца пасля вельмі моцных і пераломных момантаў, трагедый.

Я за тое, каб у чалавеку была не рэвалюцыя, а эвалюцыя: пастаянна паляпшацца, расці.

**— Ці праўда, што ты пішаш песні менавіта ў стане закаханасці?**

— У гэты час усё вакол натхняе. І не істотна: адрынулі мяне ці, наадварот, адказалі ўзаемнасцю. Ніколі не займаюся самаразбурэннем. Вакуум і пустэчу ўнутры трэба запаўняць карыснымі справамі. Станавіцца лепей. Па жыцці ўсё павінна ісці на ўздым. Мне падабаецца ў людзях імкненне да развіцця, жаданне не толькі зарабляць грошы, але і рабіць штосьці важнае. Апантанасць у творчай справе вельмі падкупае!

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З…

**— Мікіта, як ты захапіўся музыкай? Чаму гітара? Чаму рок?**

— З васьмі гадоў я слухаў «Сектор Газа», ведаў усе песні на памяць. Матуля не вытрымала і прапанавала аддаць мяне ў музычную школу. Яна бачыла мяне піяністам, але я ўпарта сказаў: «Толькі на гітару!» З 16 гадоў пачаў пісаць песні. З таго часу музыка мяне не адпускае.

**— Памятаеш свой дэбют?**

— Гэта было ў Пінску ў тых жа 16 гадоў. Мы з гуртом «Чубіньо» (таму што насілі высокія хаеры) выступалі на Дні моладзі. Быў моцны дождж, драмер у апошні момант адмовіўся іграць… Але слухачам, здаецца, мы спадабаліся!

**— Спачатку ты толькі граў на гітары?**

— Так, спяваць я пачаў не адразу. Стаўлюся да сваіх вакальных дадзеных іранічна. Але голас паважаю: часам раблю для яго напоі з імбіру і не ем марожанае, хоць вельмі яго люблю. Без практыкаванняў таксама ніяк. Мне кажуць, што голас стаў трохі лепшы за тры гады — значыць, усё недарма!

## ДУМКІ ВЕРШАМІ

**— Паэт Мікіта Найдзёнаў — які ён?**

— Вельмі лірычны. Мае вершы, як і песні, прыходзяць разам з каханнем. Хутчэй за ўсё, я не дарос яшчэ да абмеркавання глабальных праблем накшталт азонавых дзірак ці беспрацоўя ў краінах Афрыкі. Думкі ў мяне — як у творы Маякоўскага: «Я знаю — гвоздь у меня в сапоге кошмарней, чем фантазия у Гёте!». Мяне хвалюе толькі блізкае, тое, што ўнутры.

**— Вершы прыходзяць часцей у людных месцах ці на самоце?**

— Апошнім часам запісваю творы ў метро — на тэлефон. У будзённай мітусні няма часу пабыць сам насам з нататнікам, бо я не люблю пісаць, калі побач нехта знаходзіцца. Для мяне важна не проста адлюстраваць думкі, а яшчэ і адшукаць цікавую рыфму.

**— Шлях да беларускай мовы быў доўгім?**

— Пералом адбыўся ў 19 гадоў. Я адкрыў для сябе сапраўдны космас! І гэта была беларуская літаратура! З тых часоў стаў пісаць на роднай мове. Слухаць нашы песні. Хоць і пратэставала сэрца: бацькі ў мяне рускі. Давялося прызвычаіцца да вершаванай «амбідэкстрыі» — пісаць адначасова на дзвюх мовах. Хаця ўсё гэта не істотна. Галоўнае — тое, што ты хочаш выказаць!

**Марыя ВОЙЦІК**

**Даведка «ЛіМа»**

Мікіта Найдзёнаў — журналіст і музыкант, 25 гадоў. Нарадзіўся ў Пінску. Піша песні і вершы. Вакаліст, гітарыст, аўтар тэкстаў і музыкі, мастацкі кіраўнік гурта HURMA — поп-рокавага праекта, які сумяшчае гарадскі стыль і лірычную тэматыку. Гурт, які з'явіўся ў 2012 годзе, ужо мае шэраг узнагарод. У іх ліку — «Дэбют года-2013» па версіі парталу Тузін Гітоў, званне «Беларускамоўны хіт-2013» за кампазіцыю «Шукай» на «Песні года» тэлеканала АНТ.

# Як чалавек… будуецца

**Персанальная выстаўка Уладзіміра Вішнеўскага «Будаўніцтва чалавека» адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі. Прымеркавана да 60-годдзя з дня нараджэння і 40-годдзя творчай дзейнасці аўтара.**



*«Белы і чорны анёлы». 1991 г.*

— Гэта мае разважанні на тэму дуалізму чалавека: чалавека светлага, духоўнага і зямнога са сваімі страсцямі; свет духоўны і свет матэрыяльны. Чалавек на працягу жыцця змяняецца ўнутрана і вонкава (душа — цела) — гэта, натуральна, і ёсць бясконцае «будаўніцтва чалавека», барацьба белага і чорнага, — адзначыў мастак Уладзімір Вішнеўскі.

Экспазіцыя ўключае серыю аркушаў у змешанай тэхніцы, змест якіх — прыгажосць формаўтварэння, перастварэння чалавека, а таксама серыю драўляных і гранітных скульптур. Прадстаўлены і вялікі шэраг кніжных ілюстрацый і станковых работ, звязаных з кнігай, малюнкі і работы на тэму Чарнобыля.

Уладзімір Вішнеўскі нарадзіўся 17 лютага 1955 года ў вёсцы Балотчыцы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. У 1973 — 1979 гадах вучыўся на аддзяленні графікі мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (зараз



*«Смутак у позірку». 2014 г.*

Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). З 2003 года — дацэнт БДАМ па спецыяльнасці «графіка», удзельнік мастацкіх выставак, сябра Беларускага саюза мастакоў.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Віртуозы пісанкі

У дахрысціянскі перыяд яйка сімвалізавала абуджэнне прыроды. З прыняццем хрысціянства яйка ўвайшло ў абрад святкавання Вялікадня. Найбольш пашырана фарбаванне яек, а распісванне амаль забытае. На шчасце, ёсць энтузіясты, якія ўзнаўляюць традыцыйнае мастацтва: вось ужо другі раз Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці сумесна са Стаўбцоўскім раённым цэнтрам культуры зладзілі свята-конкурс «Велікодная пісанка».

Больш як 60 удзельнікаў з 11 раёнаў Міншчыны з'ехаліся ў Стоўбцы, каб прадставіць тэхнікі аздаблення яек, падзяліцца досведам. Цягам трох гадзін удзельнікі дэманстравалі свае майстэрства ў традыцыйных тэхніках (роспіс воскам, шкробанка) і сучасных (роспіс па дрэве, інкрустацыя, бісерапляценне і інш.). Журы на чале з доктарам мастацтвазнаўства дацэнтам кафедры этналогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вольгай Лабачэўскай прыглядалася, ацэньвала дасканаласць тэхнік, арыгінальнасць мастацка-вобразнага рашэння.

Падчас конкурсу працавала выстаўка пісанак. Шырока прадстаўлены сувенірныя калекцыі: распісаныя драўляныя яйкі; інкруставаныя саломкай, аздобленыя стужкамі і паперай; нават выкананыя ў экзатычных тэхніках: «Пэйп-арт», «Скрапбукінг», дэкупаж. «Мы нават намінацыі новыя ўвялі. Але аснова — традыцыйная тэхніка — роспіс воскам», — распавёў ідэйны натхняльнік конкурсу, кіраўнік аддзела традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Віталь Каспяровіч.

Майстар-клас правяла старшыня журы Вольга Лабачэўская. Працэс вырабу пісанкі — размаляванага воскам яйка — зачароўвае. З дапамогай спецыяльнага інструмента — пісака на яйка наносяцца ўзоры ў выглядзе завіткоў, ялінкі, зорак. Нічога складанага, але гэты тонкі і працаёмкі працэс у першую чаргу патрабуе цярпення і вытрымкі. Пасля таго, як узор нанесены, яйка фарбуецца, потым абсыхае. Далей трэба сціраць воск. Навошта? Малявалі, стараліся… Зноў немалы клопат: як? Аказваецца, яйка трэба паднесці да свечкі — воск пачне раставаць, і яго здымаюць сурвэткай. На каляровым фоне праяўляецца ўзор — тыя завіткі, што «схаваў» ад фарбы воск. Дзіва? Твор мастацтва. Пасля такіх шэдэўральных пераўвасабленняў цяжка задаволіцца адно звычайным фарбаваннем — скарае прыгажосць і вытанчанасць. Ці не таму конкурс сабраў столькі ўдзельнікаў?



*Калекцыя Раісы Копаць.*

— Актывізуем пісанку, каб не толькі фарбавалі і штучныя наклейкі прымацоўвалі, — распавяла член журы, старшы выкладчык кафедры касцюма і тэкстылю Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Ірына Мазюк. — Адышлі ўжо, на жаль, многія людзі, якія рабілі шкробанкі, — гэта больш архаічная з'ява. Сустрэла бабулю, якой 92 гады. Яна кажа, што шкробалі з аднаго боку сонейка, а з другога — месячык.

— Вяскоўцы ўкладалі ў сваю працу сімвалічны сэнс, — заўважае ўдзельніца конкурсу, прадстаўніца Вілейскага раённага дома рамёстваў, дзе знаходзіцца музей яйка, Наталля Сідзерчык. — Кропачкі і штрышкі ў верхняй частцы яйка — гэта просьба аб дажджы, пажаданне добрага ўраджаю. Кропачкі ўнізе — гэта зярняткі. Аднак самая распаўсюджаная для Міншчыны — звычайная крашанка.



*Уладальніца Гран-пры Раіса Копаць.*

Унікальнае мастацтва пісанкі развіваецца. Дзякуючы конкурсу выяўляюцца розныя тэхналогіі і мастацкія прыёмы. Падобныя мерапрыемствы стымулююць майстроў, адзначыла Вольга Хачкова, вядучы метадыст па народных промыслах і рамёствах Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

Найвышэйшую ўзнагароду — Гран-пры — за дасканалае валоданне традыцыйнай тэхнікай роспісу воскам атрымала Раіса Копаць з Чэрвеньскага раёна. У намінацыі «За аздабленне натуральных яек воскам» 1-е месца заняла Алена Янкоўская (Барысаўскі раён). Перамогу ў намінацыі «За творчае мысленне і наватарскі падыход у вырабе велікодных пісанак» атрымала Хрысціна Мартыненка (Стаўбцоўскі). Першай у інкрустацыі драўляных велікодных яек саломкай стала Настасся Семянюк (Мядзельскі). Уладальніца лепшай хатняй калекцыі — Святлана Шчэрбач (Уздзенскі). У намінацыі «Мастацкі роспіс драўляных велікодных пісанак» перамагла Наталля Белаглазава (Слуцкі).

Вызначаны і лаўрэаты. За высокае майстэрства, мастацкі густ і асабісты ўклад у развіццё беларускай пісанкі дыпломам лаўрэата адзначана Святлана Лучнікоўская (Вілейскі раён). Лаўрэатамі таксама сталі: Анжаліка Шлык (Пухавіцкі), Алена Івахніна (Нясвіжскі), Ірына Чараповіч (Мядзельскі), Настасся Шышла (Стаўбцоўскі), Вера Віцько (Стаўбцоўскі), Лілія Шымановіч (Уздзенскі), Наталля Сідзерчык (Вілейскі).

Удзельнічалі ў конкурсе і сямейныя калектывы. Спецыяльным дыпломам адзначана сям'я Шлык з Пухавіцкага раёна. Цешылі маленькія творцы, якіх на конкурсе было шмат. У намінацыі «Самы малады ўдзельнік» дыплом уручаны 6-гадоваму Яўгену Чуйко (Дзераўнянская школа мастацтваў, Стаўбцоўскі раён). Ён, дарэчы, арыгінальна аздобіў яйкі… гарохам і грэчкай.

Самы юны лаўрэат — вучань 2 класа школы № 2 г. Стоўбцы Матвей Ганчаронак. «Саломкай упрыгожваць навучыла бабуля, яна мне дапамагае выразаць, — прызнаўся Матвей. — Сувенір падару маленькай сястрычцы. Яна таксама хацела паўдзельнічаць, ды пабаялася, што прайграе». Прызам глядацкіх сімпатый па выніках галасавання ўзнагароджана маленькая Дар'я Калкоўская са Стаўбцоўшчыны.

На развітанне старшыня журы Вольга Лабачэўская пажадала ўдасканальваць майстэрства і выказала спадзяванне, што на трэцяе свята пісанкі маленькія ўдзельнікі прыедуць сталымі майстрамі.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом “Звязда”»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом “Звязда”».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 16.04.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2229.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1467 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12